№ 27 (721) 20 ліпеня 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснавана ... лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыва... предпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сер...



# Перамен!

Цой пад забаронай? Старонка 2. Гісторыя песні Цоя. Старонка 2. Пераварот у настроях: вёска ўзненавідзела Лукашэнку. Старонка 7.

### У нумары



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

## Чалавека з чорнага «Мерседэса» сустракалі шасцю скрынямі шампанскага

Затрыманы 3 ліпеня пры праслухоўванні песні «Перамен!» выйшаў з турмы. Інтэрв'ю.

«Перемен требуют наши сердца!» — больш за дзесяць хвілін гэтая песня Віктара Цоя гучала на ўсю моц з чорнага «Мэрсэдэса», які прыпаркаваўся ля вакзала 3 ліпеня. У гэты час там праходзіла маўклівая акцыя пратэсту, адбываўся хапун.

Толькі цяпер Дзмітрый і Кацярына, якія тады сядзелі ў машыне, завіталі ў рэдакцыю «НН», каб расказаць гісторыю да канца. Хлопца тады забралі людзі ў цывільным.

**Працяг на старонцы 5.**

## І не чырванеюць!



За апошнія тры гады пенсіі павялічыліся ў 9 разоў, а стыпендыі — у 16 разоў.

**Мікалай Чаргінец, старшыня афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Грамадскай рады па пытаннях маральнасці, блізкі паплечнік Аляксандра Лукашэнкі**

lenta.ru/articles/2011/07/07/cherginez/

## Разбіваем твар у кроў, а пасля бою абдымаемся



Інтэрв'ю з Раманам Мiраненкам, чэмпіёнам па баях без правілаў.

Раман Міраненка — адзін з найбольш перспектыўных байцоў краіны ў такой экзатычнай дысцыпліне, як змяшаныя адзінаборствы. Іх яшчэ называюць баямі без правілаў, ці М-1. У снежні Раман заваяваў першы чэмпіёнскі пояс. А 3 ліпеня Міраненка трапіўся на Прывакзальнай плошчы, калі там адбывалася маўклівая акцыя пратэсту. Адседзеў 10 сутак на Акрэсціна і ў Жодзіне. Вось такія нагоды, каб пазнаёміцца са спартсменам.

### Зарабляць баямі не ўдаецца

**«Наша Ніва»: Раман, мы сустракаемся ў Ваш абедзенны перапынак. Дзе працуеце?**

**Раман Міраненка:** Працую менеджарам па продажы кандыцыянераў.

**«НН»: Баямі нельга зарабіць сабе на жыццё?**

**РМ:** Можна зарабіць, але для гэтага трэба ўзровень на парадак вышэйшы, чым у мяне. Каб выйсці на гэты ўзровень трэба мець і стартавы капітал, і час. Пяць трэніровак у тыдзень — гэтага недастаткова. Трэба трэніравацца мінімум два разы на дзень. З працай сумяшчаць досыць складана. Для мяне гэта хутчэй хобі, чым прафесія. Вось, імкнуся сумяшчаць.

**«НН»: Някепска выходзіць. Ужо вось і чэмпіёнам сталі.**

**РМ:** У Беларусі гэта даволі малады від спорта, толькі развіваецца, таму і канкурэнцыя не вельмі вялікая. У нас змяшаныя баі робяць толькі першыя крокі. Можа, таму і стаў чэмпіёнам. Ёсць дастаткова шмат моцных хлопцаў, але з нейкіх аб'ектыўных прычынаў летась яны не выступалі.

**«НН»: Колькі ў Беларусі байцоў?**

**РМ:** Груба кажучы, калі пяць чалавек у кожнай вагавай катэгорыі моцных ёсць, то гэта добра. У нас усяго пяць байцоў, а ва Украіне ў кожным клубе па пяць. Канкурэнцыя там вельмі высокая.

**«НН»: Дык а ў Беларусі спецыяльныя клубы існуюць, ёсць куды пайсці займацца змяшанымі баямі?**

**РМ:** Ёсць клубы, накіраваныя на асобныя віды спорту — барацьба, самба, тайскі бокс. Да нас у М-1 прыходзяць людзі з іншых адзінаборстваў. Каб з дзяцінства некага рыхтавалі, то такіх клубаў у нас я не ведаю.

**Працяг на старонцы 6.**

# Цой пад забаронай? «Ляпісы» — пад двайной

На радыё пашыраецца «чорны спіс» песень. А цяпер і выразаў.

«Перш за ўсё гэта «Перамен» Віктара Цоя, — паведаміла «Белсату» крыніца на дзяржаўным радыё. — Апошні месяц шмат замаўлялі яе — раней такога не было. І яшчэ песні «Ляпісаў» — «Грай» і «Belarus freedom».

«У эфіры здарылася сітуацыя, калі слухач настойваў, каб уключылі «Перамен». Пытаўся: «У вас што, цэнзура?» У выніку чалавека проста выключылі з эфіру».

Старая песня Цоя стала адным з гімнаў маўклівых пратэстаў. Менавіта «Перамен» ставяць на званкі мабільных. На радыёстанцыях прасілі паставіць гэтую песню «для затрыманых».

Ідэолагі былі вымушаныя на гэта адрэагаваць. Напрыклад, Аляксей Міхальчанка з АНТ у сваёй перадачы пераконваў, што песня гэтая невартая.

Што датычыць «Ляпісаў», то гэта не першая забарона на іх. Вясной не змаглі адбыцца канцэрты. Зніклі выканаўцы і з FM-дыяпазону. У сваю чаргу, блогеры наклалі на песню «Грай» фота-шэраг з нашых дзён: бясчынствы і гвалт над людзьмі. «Напілісь быкі, скачуць па краіне. Топчуць ручнікі капытамі ў гліне. Скачуць па дварах, адчыняюць хаты, хто не пахаваўся — будзе вінаваты!» — пяюць «Ляпісы».

Цікава, што абедзве гэтыя песні знаходзяцца ў спісе тых, што найчасцей спампоўваюцца на папулярным беларускім сайце zaycev.by.

На радыё з'явіліся і забароненыя для вымаўлення ў эфіры словы. «Пасля выпадку з Шосам Аляксандрам Рыгоравічам на «Русском радио» дырэкцыя сабрала нараду, дзе нам патлумачылі, што вымаўляць у эфіры „ШОС«забараняецца. Цяпер усе паведамленні ад слухачоў некалькі разоў перачытваюць, перш чым пусціць у эфір», — расказала адна з вядучых.

**Зміцер Панкавец**




### «Перамен!» — гісторыя песні

Песня «Кіно» ўпершыню з'явілася ў саўнд трэку да фільма Сяргея Салаўёва «Асса!».

Рэжысёр звярнуўся да канонаў індыйскіх фільмаў. Адзін з прынцыпаў Балівуда — многа музыкі. Яе Салаўёў падбіраў для «Ассы» «метадам тыку» — папрасіў асістэнта прынесці запісы гуртоў, якія былі на піку папулярнасці. Асістэнт прынёс мех касет. Выбралі «Кіно».

Песня «Перамен!» была напісаная між здымкамі. Яна і стала ў фільме фінальнай. Хоць адпачатку меркавалася, што скончыць фільм Канстанцін Кінчаў з песняй «Моё поколение».

«Перамен!» увайшла ў так званы «французскі» альбом Цоя «Последний герой». Ён не зацікавіў заходняга слухача, але стаў культавым у СССР.

Прадзюсар Юрый Айзеншпіс, які вывеў «Кіно» на стадыёны, лічыў Цоя «самым геніяльным чалавекам, якога сустракаў у жыцці» за здольнасць у простыя словы ўкласці думкі мільёнаў людзей.

Песні Цоя мелі ўсе рысы хітоў: добрая лірыка, запамінальная мелодыя і якаснае выкананне.

Песня «Перамен!» гучыць як песня на ўсе часы. Але пакаленню народжаных у 1970-я яна асабліва блізкая. Таму яна і стала рынгтонам пратэстаў 2011-га, калі сітуацыя ў Беларусі пачала ўспрымацца як чарговы застой.

**Юрась Ускоў**

### сцісла

• **Цэмент у дэфіцыце.** У Мінску людзі тыднямі стаяць у чэргах ля будаўнічых крамаў. Чыноўнікі ўскладаюць віну на сезонны попыт. Бізнэсоўцы ж бачаць прычыну ў імкненні ўладаў максімальна павялічыць экспарт: цэмент прадаюць у Расію і Польшчу.

• **Пракаповіч больш не старшыня Нацбанка.** 18 ліпеня Лукашэнка афіцыйна вызваліў Пятра Пракаповіча ад пасады старшыні. Хоць фактычна гэтае крэсла Пракаповіч перастаў займаць яшчэ 20 чэрвеня. Дарэчы, на тым тыдні Пракаповіч засвяціўся на Дні горада ў Пружанах (Брэсцкая вобласць). Пасля па горадзе папаўзлі чуткі, што ён можа стаць новым старшынём Пружанскага райвыканкама.

• **Канец тыдня будзе душны і навальнічны.** У большай частцы краіны слупок тэрмометра будзе дабірацца да 30–34°С. Прыкладна 22 ліпеня неба над Беларуссю стане арэнай сутыкнення гарачых і халодных паветраных мас. У гэты дзень пройдуць дажджы, пранясуцца шквалы, тэмпература пачне паніжацца. А вось ад нядзелі спёка зноў вырасце.

• **Беларус набыў у ЗША аўтамабіль з какаінам.** Аўто ў аварыйным стане 25-гадовы грамадзянін набыў на адным з аўкцыёнаў у ЗША. Падчас рамонту на СТА заўважылі на днішчы тры скрыначкі чорнага колеру. У двух з іх аказаўся белы парашок. У адной з ёмістасцяў знаходзілася пяць грамаў какаіну, у другой — крухмал.

**СГ**



### самае чытанае на nn.by за 13-19 ліпеня

1. Беларусі больш няма
2. Таемныя спісы «людзей у цывільным»
3. Чалавека з чорнага «Мерседэса» сустракалі шасцю скрынямі шампанскага
4. Пераварот у настроях: вёска ўзненавідзела Лукашэнку
5. Супергерой маўклівых акцый пратэсту
6. Без апладысментаў Серада згубіла драйв — анлайн
7. Топ-5 унікальных пабудоваў у Мінску
8. Мінэканомікі прыняло рашэнне адпусціць «замарожаныя» на месяц цэны
9. Разбіўся вядомы мінскі байкер Дзмітрый Сцепаненка
10. Мінскія ДАІшнікі абстралялі школьніка

# Аўтар ідэі маўклівых пратэстаў: Лозунг у нас адзіны, хоць ён і не выкрыкваецца

Акцыі пратэсту ў серады сюд-туд працягваюцца. Масавага хапуна гэтым разам у сталіцы не было, але і асаблівым размахам мерапрыемства пахваліцца не можа. Не было вялікай колькасці людзей і ў рэгіёнах.

У інтэрнэце гучалі прапановы ўзяць тайм-аўт, аднак арганізатары вырашылі інакш. Акцыя 20 ліпеня вяртаецца да старога фармату. Людзі збіруцца на цэнтральных плошчах гарадоў.

«Наша Ніва» задала некалькі пытанняў адміністратару суполкі «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку» «Вконтакте» Вячаславу Дзіянаву.

**«Наша Ніва»: Вячаславе, ужо можна падводзіць першыя вынікі штотыднёвых акцый, у чым яны?**

**Вячаслаў Дзіянаў:** Галоўны вынік — гэта нават не тое, што людзі пачалі выходзіць на вуліцы. Галоўнае — самаарганізацыя. Яны не проста выходзяць, але і друкуюць улёткі, расклейваюць іх, прыдумляюць банеры.

**«НН»: Чаму цяпер акцыя вяртаецца да старога фармату?**

**ВД:** Так вырашылі людзі, якія бралі ўдзел у апытанцы.

**«НН»: Лозунгаў па-ранейшаму не будзе?**

**ВД:** Пакуль што не. У нас ёсць адзіны лозунг, які разумеюць усе, хоць і не выкрыкваюць: «Мы хочам, каб Лукашэнка сышоў». Прыйдзе час, і ён прагучыць.

**«НН»: У чым феномен гэтых акцый, чаму столькі людзей раз за разам выходзяць на плошчы?**

**ВД:** Феномен — у іх фармаце. Акцыі будуць працягвацца да той пары, пакуль Лукашэнка не падасць у адстаўку.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Вячаслаў Дзіянаў**

нарадзіўся ў 1987 у Празе (Чэхаславакія) у сям'і спартсмена і харэографа. З 1988 жыве ў Мінску. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце па спецыяльнасці «інжынер-педагог», але не скончыў яго. У 2009 стаў заснавальнікам «Руху Будучыні», які мае афіцыйную рэгістрацыю. Падчас апошніх выбараў быў даверанай асобай Яраслава Раманчука. 25 снежня быў вымушаны збегчы з краіны. Цяпер жыве ў Кракаве (Польшча). Адзін з каардынатараў суполкі «Рэвалюцыя ў сацыяльных сетках».

# Таемныя спісы «людзей у цывільным»



На фотаздымак карэспандэнта «НН» выпадкова трапілі службовыя спісы.

Гэты здымак, сярод дзясяткаў іншых, быў зроблены ў Мінску ў раёне плошчы Якуба Коласа 13 ліпеня. Там гэтам разам збіраліся пратэстоўцы.

На выкадроўцы відаць, што гэта спіс для ўнутранага карыстання з усімі задзейнічанымі «супрацоўнікамі ў цывільным». Ён пацвярджае, што асобы без формы ўсё ж належаць да органаў.

Спіс мае некалькі раздзелаў. «Позывной» — парадкавы нумар, па якім у радыёэфіры можна выклікаць супрацоўніка. На даступным для агляду аркушы спіс сканчаецца на лічбе «118». «Ф.И.О.», «РОВД» — у гэтай графе змешчаны прозвішчы і месцы працы супрацоўнікаў. Між іншым, у гэтым слупку ёсць і пустыя радкі.

«Расположение» — тут пішуць вуліцу і нумар дома, каля якога на час дэманстрацыі "працуе" работнік. На некаторых ёсць пазнака «рэзерв».

Свабода слова і сходу ў Беларусі гарантуюцца канстытуцыяй, але на практыцы грамадзяне не маюць гэтых базавых для народаўладдзя правоў.

**Сяргей Гудзілін**

## Янукевіч: Калі прыйдуць са спецназам, то будуць выносіць

Ужо тры з паловай месяцы доўжыцца эпапея з высяленнем з памяшкання офіса Партыі БНФ (праспект Машэрава, 8). 7 ліпеня на адрас сядзібы прыйшоў ліст са ЖРЭА: выселіцца цягам тыдня.

Тым не менш, офіс працягвае функцыянаваць. Тут ладзяцца культурныя імпрэзы, праходзяць палітычныя сустрэчы.

Старшыня БНФ Аляксей Янукевіч кажа, што яны падалі скаргу ў Вышэйшы гаспадарчы суд. Цяпер чакаюць, калі прызначаць дату яе разгляду.

«У выпадку прыходу спецназаўцаў будуць нас выносіць. Самі пакідаць памяшканне не збіраемся», — кажа Янукевіч.

Дарэчы, начное дзяжурства з Управы знятае.

Адпрацоўваецца і запасны варыянт, калі адстаяць сядзібу ўсё ж не ўдасца. «Ужо падпісаная дамова арэнды», — кажа Янукевіч.

Управа БНФ — знакавае месца на палітычнай карце Мінска. На Машэрава, 8 знаходзяцца юрыдычныя адрасы адразу двух партый — БНФ і КХП-БНФ.

**ЗП**

## Беларусь упершыню трапіла ў спіс ворагаў Расіі

Такія вынікі сацыялагічнага апытання, зладжанага расійскім фондам «Грамадскае меркаванне». Амаль палова апытаных расійцаў (47%) перакананыя, што ў Расіі ёсць краіны-ворагі.

Месцы ў першай пяцёрцы размеркаваліся наступным чынам: ЗША — 26%, Кітай — 13, Грузія — 5, Японія — 3, Беларусь на 5-м месцы з 2%.

Варта адзначыць, што ЗША і Кітай узначальвалі спіс і па выніках першага такога даследавання, праведзенага ў чэрвені 2000 года. Тады яны мелі 21 і 8% адпаведна. Беларусі тады ў спісе не было.

Галоўны рэдактар часопіса «Расія ў глабальнай палітыцы» Фёдар Лук'янаў супакойвае: не варта звяртаць асаблівай увагі.

«Людзі глядзяць тэлевізар, які апошні год пераконваў, які небяспечны чалавек Лукашэнка».

**Сямён Печанко**

## Януковіч адмяніў парад: эканомія

Прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч сваім указам адмяніў вайсковыя парады ў шэрагу гарадоў краіны, а таксама стварэнне памятнага юбілейнага знака «20 гадоў незалежнасці Украіны». Парады мусілі прайсці 24 жніўня ў Кіеве, Адэсе, Керчы, Севастопалі і шэрагу іншых гарадоў. Зэканомленыя грошы пойдуць на праграмы сацыяльнай абароны вайскоўцаў.

Усяго бюджэт параду складаў каля 56 мільёнаў грыўняў (каля $7 мільёнаў).

Апазіцыя ініцыятыву Януковіча раскрытыкавала — на тое яна і апазіцыя.

У Беларусі таксама гучалі прапановы адмяніць вайсковы парад 3 ліпеня — у нашай краіне яшчэ і эканамічны крызіс. Аднак парад у Мінску ўсё ж адбыўся. Тады ў прэс-службе галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Мінабароны паведамілі, што парад абышоўся кожнаму беларусу ў 10 грамаў кілбасы. Што праўда, вайсковы ідэолаг не ўдакладніў, якой. Лічба падаецца няпраўдападобна малой. Напэўна, ніхто не ўлічваў працу тысяч спецслужбістаў па ахове месца параду, як і цану сапсаваных тракамі тэхнікі кіламетраў асфальту. І тым больш турнікетаў з пунктамі пропускаў.

**СП**

## Сцісла

• **Лукашэнка: Мы — рускія людзі.** Гэтую мантру кіраўнік Беларусі паўтарыў гэтым разам у часе сустрэчы з губернатарам Амурскай вобласці Расійскай Федэрацыі Алегам Кажамякам. «Мы — рускія людзі, у нас эмоцыі заўсёды хвошчуць цераз край, і без эмоцый мы ніколі не будавалі нашыя адносіны, маю на ўвазе, паміж славянскімі дзяржавамі», — сказаў Лукашэнка.

• **Дзяўчына з плакатам «ШОС» выйшла на Плошчу Незалежнасці.** Праз некалькі секундаў на яе кінуліся спецназаўцы, сярод якіх прысутныя журналісты пазналі палкоўніка Яўсеева. Дзяўчыну завуць Наталля Прадзед. Імаверна, сілавікі ведалі пра будучы пратэст таму, што дзяўчына не трымала яго падрыхтоўку ў сакрэце.

• **Сурыкаў: Расія не зацікаўленая ў дэфолце Беларусі.** Пасол Расіі так патлумачыў, чаму Масква настойвае на прыватызацыі. «Гэта напаўненне золатавалютных рэзерваў. І гэта прыход інвестыцый. Таму што бясконцыя крэдыты без задзейнічання ўласных магчымасцяў да дабра Беларусь не прывядуць. Мы добра гэта памятаем па 2009 годзе: дэвальвацыя беларускага рубля, бяздзеянне, найперш Нацыянальнага банка, ці, наадварот, дзеянні, якія стварылі каласальны навес зусім незабяспечаных грошай, і вось яно — сітуацыя паўтараецца. Наступная дэвальвацыя — 56%, а насамрэч усе 70%. І за гэты час Беларусь падрасла ў крэдытных даўтах яшчэ. Што далей? Дэфолт краіны? Вось чаго мы не хочам у першую чаргу».

**СГ, БелаПАН**

# Як вырашыць сітуацыю з валютай?

**Для ўвядзення справядлівага курса трэба сабраць мінімум $2,5 млрд Але ці пратрымаецца эканоміка да таго часу?..**

Які курс даляра і які сярэдні заробак у валюце — вось два асноўныя крытэры, па якіх шараговы беларус ацэньвае стан эканомікі. Цяпер відавочнага адказу няма ні ў першым, ні ў другім выпадку.

«Наша Ніва» сістэматызуе магчымыя варыянты вырашэння валютнай праблемы. Зразумела, што абраная стратэгія пацягне за сабой карэнныя змены ў эканоміцы, а можа, і палітычным ладзе краіны.

### Трымаць і чакаць

**Першы варыянт. Трымаць цяперашні курс да апошняга, чакаючы выратавання.**

Выглядае, што менавіта гэты шлях — самы просты, але і самы небяспечны — абраны беларускай уладай. Але застаецца пытанне, хто захоча стаць выратавальнікам Беларусі. Расія, МВФ ці невядомыя пакуль купцы прадпрыемстваў-флагманаў? Пакуль чаканне толькі ўскладняе стан айчыннай эканомікі.

«Улада спадзяецца датрымацца да 1 студзеня, калі нібыта павінная запрацаваць Адзіная эканамічная прастора», — мяркуе эканаміст Сяргей Чалы. Нізкія цэны на газ могуць на некаторы час вярнуць Беларусь у стан трох-чатырохгадовай даўніны, калі за кошт нафтаперапрацоўкі жыла ўся краіна. Тым не менш, Сяргей Чалы выказае прагноз, што неўзабаве можа пачацца другая, абвальная стадыя беларускага крызісу.

**Плюс** — курс трымаецца на ўзроўні хоць бы 5000 рублёў

**Мінусы** — расце беспрацоўе ў прыватным сектары, а разам з ім — сацыяльная незадаволенасць. Праблемы эканомікі заганяюцца ўнутр і некалі зноў ускрыюцца.

### Дэвальваваць яшчэ

**Другі варыянт. Ажыццявіць яшчэ адну дэвальвацыю, падняўшы даляр да 6000-6500 рублёў, і трымаць курс на гэтым узроўні.**

Рыначная ўніфікацыя курса белага і чорнага рынку — тое, чаго патрабуе малы і сярэдні бізнэс. «Урад і Нацбанк недаацэньваюць складанасць моманту, глыбіню і прычыны эканамічнага крызісу. Вызначаныя ў антыкрызісным плане меры грунтуюцца на памылковай перадумове — дэвальвацыі беларускага рубля на 56%, — папярэджвае старшыня бізнэс-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў ім. Куняўскага Рыгор Бaлей. — Рэальны бізнэс змушаны працаваць ва ўмовах рэальнай дэвальвацыі, якая складае 150-200%». На яго думку, курс даляра на цяперашні момант складае 7500—9000 рублёў.

**Плюс** — валюта стане роўна даступнаю дзяржаўным і прыватным кампаніям, а таксама людзям, прыватны бізнэс запрацуе нармальна, лягчэй будзе атрымаць замежныя крэдыты.

**Мінусы** — новы скачок цэн следам за далярам на тавары і прадукты, кошт якіх рэгулюецца дзяржавай. Вырасце і недавер да рубля. Непрагназавальны рост незадаволенасці ў грамадстве.




**Адстаўны прапагандыст Зімоўскі працягвае кпіць са свайго былога працадаўцы. У сваім апошнім артыкуле ён прапанаваў выплачваць людзям заробкі не грашыма, а аблігацыямі дзяржаўнай пазыкі на развіццё народнай гаспадаркі (чытай старонку 7). На фота: у кампаніі з Ягорам Хрусталёвым на дні нараджэння апошняга. Мінск, 17 ліпеня.**

### Інтэрвенцыя

**Трэці варыянт. Зрабіць інтэрвенцыю на валютны рынак, патраціўшы некалькі мільярдаў даляраў, і знайсці раўнаважкі курс.**

«Адкладзены попыт на валюту ў юрыдычных і фізічных асобаў ацэньваецца ў $2,5 млрд», — кажа аналітык даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і мэнэджмэнту Зміцер Крук. Лічба не такая і вялікая. Але такіх грошай у Беларусі ўжо няма. «Для пераходу на рынкавы курс у Нацбанка няма рэсурсаў, - пацвярджае гэтую думку адзін з супрацоўнікаў Нацбанка ў размове з карэспандэнтам «Інтэрфакс-Захад». — Таму правядзенне дадатковай рынкавай гандлёвай сесіі на біржы бессэнсоўнае».

**Плюс** — рынкавае вырашэнне праблемы, да якога рана ці позна ўсё адно давядзецца прыйсці.

**Мінусы** — для яго трэба загадзя знайсці гэтыя сродкі шляхам прыватызацыі ці вялікім стабілізацыйным крэдытам з-за мяжы. І першае, і другое патрабуе палітычнай волі.

**Яўген Васількоў**

## Спіс Мясніковіча

**Прэм'ер расказаў, якія беларускія кампаніі хоча прадаць Расіі.**

Падчас паездкі ў Маскву прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч расказаў, з якімі расійскімі кампаніямі нібыта вядуцца перамовы наконт продажу беларускіх прадпрыемстваў. Спіс з сямі айчынных кампаній атрымаўся ўнушальным. Фактычна, Мясніковіч выказаў гатоўнасць прадаць Расіі ўсе найдаражэйшыя прадпрыемствы, апроч «Беларуськалія».

Па словах Мясніковіча, спіс выглядае наступным чынам. «ГроднаАзот» прапанаваны кампаніям «Раснафта» і «Сібур», «Нафтан» — кампаніі «Лукойл», «Белтрансгаз» — «Газпраму», Мозырскі НПЗ — «Раснафце», МАЗ — «Русмашынам» і «Растэхналогіям», «Інтэграл» — «Растэхналогіям», частку акцый кампаніі МТС — расійскаму МТС.

Расійскія прадпрыемствы адразу ж пачалі абвяргаць словы беларускага прэм'ер-міністра. У прыватнасці, запярэчылі «Сібур» і «Раснафта». Яны заявілі, што беларускія прадпрыемствы «ў цяперашніх умовах ім нецікавыя».

**ЯВ**

## Правал першага ІРО

**Першы блін выйшаў сабаку, але арганізатары будуць працягваць.**

Арганізатары першага публічнага размяшчэння акцый (ІРО) ААТ «Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў» здолелі прадаць усяго 223 акцыі з 125 500 выстаўленых на продаж.

Агульны кошт прададзеных акцый — 105 мільёнаў рублёў. Валер Пастоўскі, дырэктар ЗАТ «Брасток», якое выступала інвестыцыйным агентам, бачыць аб'ектыўныя прычыны няўдачы:

«Пакет акцый, выстаўлены на продаж, быў замалы для інвестара. Ім патрэбны хаця б блакавальны пакет (25%).

Сітуацыя ў эканоміцы таксама наклала свой адбітак на размяшчэнне, — сказаў ён у інтэрв'ю tut.by — Да таго ж, было мала часу на размяшчэнне. Паводле беларускага заканадаўства, мы павінны былі ўкласціся ў 10 працоўных дзён. А са жніўня на гэта будзе адводзіцца ў 6 разоў больш часу».

ІРО — першапачатковая публічная прапанова акцый кампаніі на продаж. Пры гэтым маецца на ўвазе, што кампанія ўпершыню выводзіць свае акцыі на біржу, прапануючы іх неабмежаванай колькасці асобаў.

Менавіта такім шляхам Беларусь мяркуе прадаваць «Беларуськалій» і «БелАЗ».

**ЯВ**

## Грашовы станок не спыняецца

Паводле статыстыкі Нацбанка на 1 ліпеня 2011 года, колькасць наяўных беларускіх рублёў дасягнула 6,33 трыльёна. Такім чынам, за чэрвень было надрукавана яшчэ 490 мільярдаў рублёў.

Найбольш, амаль трыльён рублёў, было выпушчана ў красавіку 2011 года. Агулам жа, у параўнанні з 1 студзеня 2011 года, колькасць наяўных у абароце павялічылася на 40%.

Дзяржава не абмяжоўвае эмісію, а друкуе новыя і новыя рублі, інакш ва ўмовах дэвальвацыі мог бы ўзнікнуць дэфіцыт у банкаматах.

**ЯВ**

## Колазварот камбайнаў у Беларусі

**Кожны год на сметніцу адпраўляецца шостая частка калгаснай тэхнікі.**

Чарговую падборку звестак аб стане беларускай сельскай гаспадаркі агучыў Белстат. Яна дае тлумачэнне, чаму калгасы застаюцца ў такім занядбаным стане. Яшчэ б, калі спісваюць за пяць гадоў увесь парк тэхнікі!

Спісанне сельскагаспадарчай тэхнікі (у працэнтах да наяўнасці на канец года)

**Паводле iva-dim.livejournal.com**

| | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 |
|---|---|---|---|---|---|
| Кормаўборачныя камбайны | 26,1 | 28,3 | 25,2 | 17,6 | 9,7 |
| Бульбаўборачныя камбайны | 19,2 | 17,8 | 16 | 14 | 11,8 |
| Жаткі | 16 | 18,1 | 16,1 | 15,3 | 16,1 |

## Банкі зачыняюць абменнікі

**Пустыя касы не акупляецца ўтрымліваць.**

Беларускія банкі закрываюць абменныя пункты ў сувязі са значным скарачэннем аб'ёму валютных аперацый. Так, у «Белаграпрамбанку» 15 абменных пунктаў з 89 часова не працуюць.

У «Белінвестбанку» 15 абменных пунктаў з 70 давялося часова зачыніць.

**Паводле Прайм-ТАСС**

| Краіна | Курс да $1 |
|---|---|
| Беларусь | 50 040 000 |
| Туркменістан | 7 125 000 |
| Узбекістан | 1 719 970 |
| Грузія | 1 676 700 |
| Украіна | 797 140 |
| Таджыкістан | 467 490 |
| Арменія | 73 720 |
| Казахстан | 73 070 |
| Азербайджан | 39 320 |
| Расія | 28 384 |
| Малдова | 11 541 |
| Кыргызстан | 9 060 |
| Літва | 248 |
| Эстонія | 112 |
| Латвія | 101 |

## Амаль як Зімбабвэ

**Без уліку дэнамінацый курс даляра дасягнуў 50 мільёнаў рублёў.**

Афіцыйны курс даляра ЗША 13 ліпеня 2011 года ўпершыню пераадолеў адзнаку 5000 рублёў, дасягнуўшы ўзроўню 5004 рублі. Без уліку дэнамінацый курс склаў бы 50 040 000 рублёў.

Па ступені абясцэньвання нацыянальнай валюты да амерыканскага даляра з 1991 года Беларусь застаецца абсалютным лідарам у Еўропе і былым СССР. Рэкардсменам у свеце з'яўляецца Зімбабвэ.

**БелаПАН**

### Сціслa:

• **Аб'яднаная малочная кампанія з'явіцца ў Беларусі да канца года.** Кампанія будзе створаная на базе Мінскай і Брэсцкай абласцей. Мяркуецца, што доля дзяржавы ў ёй складзе больш за 25%. Падобныя прадуктовыя аб'яднанні будуць ствараца і ў іншых сферах. Такім чынам урад хоча сканцэнтраваць экспарт харчавання.

• **Літоўскую АЭС пабудуюць японцы.** Найлепшую інвестыцыйную прапанову для атамнай электрастанцыі пад Вісагінасам зрабілі японскія кампаніі Hitachi і Hitachi GE Nuclear Energy. АЭС пабудуюць фактычна на мяжы Беларусі, Літвы і Латвіі, на месцы колішняй Ігналінскай.

• **ЗША на мяжы дэфолту.** Дзяржаўны доўг дасягнуў максімальна дазволенага ўзроўню — $14,3 трыльёна. Для часовага вырашэння праблемы кангрэсмены могуць прыняць новы дазволены максімум, іначай ЗША будзе вымушаная заявіць аб тэхнічным дэфолце, што прывядзе да глабальнага эканамічнага крызісу ва ўсім свеце. Дэфолт можа быць абвешчаны 2 жніўня.

**ЯВ**

# Чалавека з чорнага «Мерседэса» сустракалі шасцю скрынямі шампанскага

Працяг са старонкі 1.

Дзмітрый працуе дырэктарам адной мінскай фірмы, Кацярына глядзіць дзіця. 3 ліпеня пара накіравалася на Прывакзальную плошчу, дзе мела адбыцца маўклівая акцыя пратэсту.

«Да Прывакзальнай плошчы на машыне дабрацца было праблематычна, бо яна была ачэпленая. Тым не менш, вакольнымі шляхамі мы дабраліся», — расказвае Дзмітрый.

Спыніліся на прыпынку грамадскага транспарту, уключылі «аварыйку» ды пачалі слухаць хіт Цоя. «Праз пару хвілін пад'ехала машына ДАІ: пыталіся, у чым справа. Мы казалі, што кампутар выдае памылку, і ехаць далей не можам. Мы патрабавалі ў іх пасведчанні, але нам паказвалі толькі бэджы, што пасведчаннем не з'яўляюцца», — працягвае Дзмітрый.

ДАІшнік сказаў, што будзе пісаць пратакол за няправільную паркоўку. Ён настойліва патрабаваў сесці да яго ў машыну. Дзмітрый і Кацярына адмаўляліся. Падцягнулася падмацаванне — людзі ў цывільным, якія не прадстаўляліся.

«Людзі бандыцкага выгляду» выскачылі з сіняга мікрааўтобуса без нумароў і адразу пачалі камандаваць. Мы зноў запыталіся, хто яны такія. На што атрымалі нецэнзурны адказ. Яны спрабавалі ўдарыць мяне праз акно, таму я пачаў яго зачыняць. Спачатку іх толькі двое, а пасля пяць ці сем. Каб я не змог зачыніць вакно да канца, у праём засунулі нейкую рацыю. Спрабавалі локцямі разбіць шкло», — расказвае Дзмітрый.

Палохалі, што кінуць у машыну дымавую гранату. Гранат не было, але праз праём у акне дзверцы машыны змаглі адчыніць.

Дзмітрыя выцягнулі, пасадзілі ў мікрааўтобус. «Каб я нікога не бачыў, на вочы нацягнулі нейкую куртку. Пасыпаліся ўдары па галаве, запалохванні».

Тым часам да Кацярыны, якая заставалася ў машыне, прыехаў асабіста начальнік ДАІ Дзмітрый Карзюк. Ён сеў у машыну і загадаў ехаць. «Мы праехалі літаральна 200 метраў, дзе мяне чакаў патруль, да мяне падсеў супрацоўнік ДАІ, які перад гэтым забіраў дакументы. У суправаджэнні шасці машын ДАІ рухаліся да Фрунзенскага РУУС», — расказвае Кацярына. На кіроўцу былі складзеныя пратаколы, а машына апынулася на штрафстаянцы.

Дзмітрый расказвае, як складалі на яго рапарт у пастарунку Фрунзенскага раёна. «Пратакол затрымання міліцыянт сам напісаць не мог без падтрымкі, таму пастаянна тэлефанаваў і пытаўся, дзе ён мяне затрымліваў, а якой гадзіне, дзе я лаяўся. Яму сказалі абавязкова напісаць, што матам я выказваўся ўнутры «Мерсэдэса», бо было шмат кадраў, дзе засведчана, што з машыны я не выходзіў».

Дзмітрый кажа, што такі цынізм супрацоўнікаў міліцыі яго абурыў: «Калі фальсіфікуеце дадзеныя, дык хоць не ў маёй прысутнасці».

У выніку Дзмітрый трапіў у ізалятар па вуліцы Акрэсціна. На наступны дзень быў асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

«На Акрэсціна ахоўнікі ставіліся да нас максімальна пазітыўна. У Жодзіне ж нам вырашылі зладзіць цырк [перад канцом адседкі зняволеных перавялі ў Жодзінскі ізалятар]. Нас сустракалі, як маньякаў-забойцаў. У доўгім калідоры было «маскі-шоу», некага выбарачна білі, спусцілі сабак. На мяне самога кінуўся сабака. Добра, што ў намордніку. Людзей прымушалі ледзьве не на карачках ісці, тварам у падлогу», — кажа Дзмітрый.




Выпускалі вязняў таксама арыгінальна. Іх адвезлі на чыгуначную станцыю «Чырвоны Сцяг», калі сваякі чакалі іх ля турмы. «Людзі баяліся даваць мабільнікі нам: мы ж ніяголеныя, з мяшкамі пад вачыма. Добра, што дзядуля адзін не пашкадаваў. Так паведамілі сваякам. Да нас прыехала амаль сто машын. Было шэсць скрыняў шампанскага, гучала «Перамен!» Цоя», — кажа Дзмітрый.

Адміністрацыйная справа Кацярыны ўсё яшчэ не разгледжаная, бо пратаколы даслалі на дапрацоўку. Спачатку пратаколаў было аж сем, але пакінулі толькі два. «Супрацоўніка ДАІ, які складаў тыя пратаколы, дарэчы, так і не адпусцілі ў адпачынак, — смяецца Кацярына. — Сказалі, пакуль справа не будзе скончаная, нікуды не пойдзеш».

Менавіта пасля геройства Дзмітрыя і Кацярыны песня «Перамен» масава загучала на радыё ў канцэртах па заяўках. Цяпер з'явілася негалоснае распараджэнне не трансляваць яе, але гэта толькі выставіла ініцыятараў забароны на пасмешышча.

**Зміцер Панкавец**

## Чарговая справа за абразу Лукашэнкі?

Удзельніка маўклівых акцый выклікаюць на допыт па крымінальнай справе.

Юрый Салодкі быў асуджаны на 13 сутак арышту за ўдзел у маўклівай акцыі 3 ліпеня. Пакуль ён сядзеў, па месцы рэгістрацыі ў Віцебску яму прыслалі некалькі позваў на допыт у пракуратуру па факце абразы прэзідэнта. Пасля вызвалення Юрыю патэлефанавалі з пракуратуры і папрасілі з'явіцца.Сказалі, што на сайтах з'явіліся яго выказванні, якія сталі падставай для завядзення крымінальнай справы. Юрый лічыць, што справа ў яго звароце да прадстаўнікоў спецслужб, распаўсюджаным напярэдадні 3 ліпеня. Ён заклікаў іх «не выконваць злачынныя загады незаконнаабранага прэзідэнта». На допыт Салодкі едзе 20 ліпеня.

Юрый Салодкі быў затрыманы на Прывакзальнай плошчы ў Мінску. Падчас затрымання яго моцна збілі. Ён кажа, што ў аўтазаку яго разам з іншымі людзьмі кідалі тварам на падлогу і білі, у тым ліку нагамі па галаве. Калі Юрыя перавялі ў ізалятар у Жодзіне, медыкі адмовіліся фіксаваць сінякі. Маўляў, яны ўжо «не свежыя». Падчас арышту тыдзень трымаў галадоўку. Спыніў яе, калі прыгразілі, што пачнуць карміць прымусова.

**Сяргей Макарэвіч**



## Мікіта Ліхавід зноў у карцары

Пяты раз за два месяцы.

Адвакатка Дар'я Ліпкіна наведала Мікіту ў калоніі. Яго змясцілі ў карцар за чатыры парушэнні на 20 дзён. Жанчына адзначыла, што Мікіта схуднеў, пад вачыма з'явіліся сінія колы. Але ён трымаецца мужна.

Таксама стала вядома, што палітвязня абмежавалі ў суме, якую ён можа патраціць у турэмнай краме на харчы: з 200 тысяч рублёў на месяц гэты ліміт звялі да 70 тысяч руб.

Мікіта Ліхавід асуджаны на 3,5 гады калоніі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010. Раней ён ужо правёў 35 дзён (10, 15, 5, 5) у карцары. Напісаць яму можна на адрас: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

**КМ**

## Два вяселлі за кратамі

Са сваімі дзяўчатамі жэняцца Зміцер Дашкевіч і Павел Вінаградаў.

Нявеста палітвязня Вінаградава Святлана Гарахавік паведаміла, што распісацца яны запланавалі 22 ліпеня. Усё чакалі, каб у калонію паступілі дакументы, што прысуд уступіў у сілу. Святлана адзначыла, што рашэнне ажаніцца прыспешыла зняволенне Паўла. Па словах дзяўчыны, яны жылі разам ужо два гады, але не планавалі пакуль распісвацца. Галоўны ж плюс ад «штампа ў пашпарце» — дадатковыя доўгатэрміновыя спатканні, якія не дазваляюць з грамадзянскімі жонкамі.

Сведкам з боку жаніха будзе журналіст тэлеканала «Белсат» Аляксандр Баразенка. Прысутнічаць на цырымоніі дазволена толькі бацькам і сведкам. Святлана паведаміла, што белага вясельнага строю не будзе, бо для таго месца ён недарэчны.

Лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч жэніцца з Настай Палажанкай. Вяселле плануецца на восень. Па словах Насты, галоўная праблема сёння ў тым, што пашпарт Змітра працягвае знаходзіцца ў КДБ — яго так і не перадалі ў калонію. Але спадзяюцца найбліжэйшым часам усё вырашыць.

Магчымасць ажаніцца за кратамі разглядаюць таксама палітвязень Зміцер Буланаў і Надзея Макарэвіч. Але яны пакуль вагаюцца, ці варта гэта рабіць цяпер.

На вяселле маладыя атрымліваюць трохдзённае спатканне.

**Сяргей Макарэвіч**

### Сцісла

• **Прэзідэнт Манголіі Цахіагійн Элбэгдорж узяў удзел у кампаніі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі.** «Несправядліва, што адзін з кандыдатаў цяпер прэзідэнт, а іншыя ў турме. Я гэтага не разумею. Навошта баяцца гэтых людзей? Я — прэзідэнт сваёй краіны, для мяне вялікая радасць служыць краіне, калі я вольна абраны сваім народам. Мае апаненты займаюцца сваёй дзейнасцю. Яны вольныя і выказваюць свае погляды. Гэта нармальна», — заявіў Цахіягійн Элбэгдорж у інтэрв'ю тэлеканалу «Белсат».

• **Прысуд Статкевічу, Усу, Класкоўскаму, Грыбкову, Квіткевічу, Буланаву, Пазняку,** удзельнікам акцыі пратэсту 19 снежня 2010, пакінулі без зменаў.

**КМ**

## Дапамога ў выплаце «палітычных» штрафаў

Звярнуцца па дапамогу альбо прапанаваць яе можна праз Дамініку (+ 375 29 914 36 18; skype: daminik-a) і Насту (+375 29 555 49 41). Валанцёры гатовыя дапамагчы юрыдычнымі парадамі, у зборы перадачаў для асуджаных і дастаўцы іх у турмы.

Грамадства таксама збірае грошы на выплату штрафаў праз кашалькі вэб-мані: Пакласці на іх грошы можна на пошце і ў банках.

Беларускія рублі: B749359163591
Расійскія рублі: R867924622709
Даляры: Z311448240008
Еўра: E421688564759.

**КМ**

# Раман Міраненка:

## Разбіваем твар у кроў, а пасля бою абдымаемся

Працяг са старонкі 1

### І ў стойцы, і ў партэры

**«НН»: Вы з якога спорту трапілі ў М-1?**

**РМ:** З вольнай барацьбы. Ёй займаўся яшчэ ва Украіне. Пераехаў у Беларусь, пачаў займацца тайскім боксам. Прапанавалі сумясціць са змяшанымі баямі. Паспрабаваў, спадабалася, нешта ўдалося. У М-1 нехта лепшы ў стойцы, нехта —у партэры. Усё заключаецца ў тым, хто каго перахітрыць.

**«НН»: Навыкі барацьбы моцна дапамагаюць?**

**РМ:** Канечне. Калі сустракаюцца барацьбіт і ўдарнік, то ўсё будзе залежаць ад тактыкі бою, хто пераваждзе яго ў сваё рэчышча. Калі «павёўся» на тактыку праціўніка — лічы, што прайграў.

**«НН»: Калі трэніравацца паспяваеце?**

**РМ:** У мяне пяць трэніровак на тыдзень. Пятніца і нядзеля выходныя. У нядзелю лазня, у пятніцу ці лёгкі крос, ці адпачынак поўны. Імкнуся рабіць зарадку раніцай (практыкаванні, крос, гнуткасць), але не заўсёды ўдаецца. Раблю гэта а сёмай раніцы, у гэты час дужа напружваць арганізм не трэба. Прафесіяналы займаюцца болей, але я стаўлю крыху іншыя мэты ў жыцці.

**«НН»: Якія?**

**РМ:** Хачу дасягнуць нейкіх кар'ерных поспехаў. У мяне ёсць сям'я. Я ведаю, што адным спортам сям'ю не пракорміш. Спортам пакуль грошы я зарабляць не магу. Магчыма, некалі выйду на іншы ўзровень, тады і падумаю.

### Правілы вельмі жорсткія

**«НН»: Праслаўлены беларускі баец Андрэй Арлоўскі з'ехаў у Амерыку, каб зарабіць грошы і папулярнасць…**

**РМ:** У Арлоўскага і тут быў клас высокі. Проста так у ЗША не з'едзеш, цябе павінны заўважыць, запрасіць.

**«НН»: Нікуды не запрашалі?**

**РМ:** Цяпер у мяне траўма рукі. Перанёс ужо адну аперацыю, перасаджвалі сустаў. Яшчэ так і не аднавіўся. Рука не згінаецца. Відаць, будзе яшчэ адна аперацыя. Гэта час і грошы. А цяпер няма ні першага, ні другога. Калі аднаўлюся, яшчэ не ведаю. Запрашалі на некалькі турніраў, але не ездзіў. Баёў хапае, як і турніраў, не хапае байцоў.

**«НН»: Часта ваш від спорту называюць «баямі без правіл». Гэта правільна?**

**РМ:** Не. Ёсць такое абывацельскае меркаванне, што калі змешваеш «рукі, ногі і барацьбу», то гэта бай без правіл. Насамрэч абмежаванні вельмі жорсткія. Спорт не больш траўманебяспечны, чым футбол. Хаця, безумоўна, траўмы ёсць, яны непазбежныя, як у любым іншым кантактным відзе спорту.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Чаго ж у тайскім боксе заставацца не захацелі? У ім поспехі беларусаў уражваюць.**

**РМ:** Туды я пайшоў, каб спасцігнуць азы бою ў стойцы. Гэта мае слабае месца. Я сябе шукаю. Здаецца, у М-1 пачаў знаходзіць. Мне гэта падабаецца. Я пачаў займацца тайскім боксам у 23 гады, а мае аднагодкі ў Беларусі займаліся ім ужо 15-16 гадоў. Яны ўжо на высокім узроўні, і канкураваць з імі бессэнсоўна.

### Родныя супраць

**«НН»: Раман, а як Вы апынуліся ў Беларусі?**

**РМ:** Ёсць тут знаёмыя, прыязджаў да іх у госці. Пазнаёміўся з дзяўчынай, з якой потым узялі шлюб. Думалі, ці яна да мяне пераедзе ва Украіну, ці я да яе. Яна тады вучылася, я прыехаў да яе. Вось так і абжыўся. У Беларусі ўжо паўтара года.

**«НН»: Родныя не супраць твайго хобі — М1?**

**РМ:** Канечне, супраць. Мама, бабуля супраць. Суседка да бабулі прыходзіць і расказвае, што ім плацяць па 10 тысяч даляраў, яны б'юцца насмерць. Тлумачыш потым, паказваеш відэа, што ёсць суддзя, ёсць правілы. Усё не так страшна. У дзяцінстве мама не аддавала мяне нават на барацьбу, бо пераживала, што гэта ўсё бандытызм. Зрэшты, калі табе гэта падабаецца і ты можаш гэта аргументаваць, то і родныя не будуць супраць.

**«НН»: А жонка?**

**РМ:** Жонка звыклася: калі я нешта вырашыў, то буду гэта рабіць. У гэтым нічога кепскага няма — гэта не наркотыкі, не бандытызм. Я займаюся спортам, і горш ад гэтага нікому не будзе. Зразумела, што яна таксама не вельмі пазітыўна ставіцца да гэтага, але змірылася.

**«НН»: У жыцці навыкі даводзілася калі-небудзь прымяняць?**

**РМ:** На жаль, так. Тыя, хто трэніруецца ў спортзалах, ім дастаткова агрэсіі. На вуліцах заўсёды імкнешся канфлікт максімальна згладзіць. Але бывае, што людзі пераходзяць рысу. У мяне крыху імпульсіўны характар, ёсць моманты, калі не магу сказаць «стоп». Гэта кепская рыса.

### Хірург з дзевяццю татуіроўкамі

**«НН»: У Вас ёсць мянушка «Хірург», адкуль яна?**

**РМ:** Старая доўгая гісторыя з Украіны, яшчэ са школьных гадоў. Гісторыя сапраўды цікавая, але яна мяне не прыхарошвае, таму не хачу расказваць. Насамрэч мне гэтая мянушка падабаецца.

**«НН»: Нярэдка спартсмены — людзі забабонныя. Вы таксама стараецеся ступіць на рынг з пэўнай нагі?**

**РМ:** Імкнуся не стрыгчыся і не галіцца перад боем. Ёсць такія забабоны, што тым самым пазбаўляешся навыкаў і досведу. Зразумела, што за пару дзён да бою нікуды не лезеш, проста адпачываеш дома, каб у дзень паядынка стрэльнуць.

**«НН»: Раман, раскажыце трохі пра свае татуіроўкі. Што яны азначаюць?**

**РМ:** Мае захапленні. На руцэ вось тут — Траянская вайна. Гэта бой дзвюх наймацнейшых на той час дзяржаў, які пачаўся на глебе кахання. Я ўкладаю сюды нейкі свой сэнс. У мяне дзевяць татуіровак, але месцаў вольных яшчэ хапае. Хутка паеду да сябра ў Кіеў, зраблю яшчэ. Гэта не танная забаўка, калі хочаш якасную. Робіцца раз на ўсё жыццё, таму грошай лепш не шкадаваць.

**«НН»: А якое ў вас стаўленне да баёў жанчын?**

**РМ:** Жонку ні ў якім разе не пусціў бы. Але калі жанчыны выступаюць са роўнасць полаў, то ніхто ім не можа ўказваць. Калі яна хоча, можа, то чаму не. Нічога кепскага ў гэтым не бачу.

### На сумленні людзей у цывільным

**«НН»: Па затрыманні 3 ліпеня. Як так адбылося?**

**РМ:** Я жыву недалёка ад вакзала, ішоў дадому. Да мяне падбеглі людзі не ў форме. Ніхто не прадставіўся, пачалі круціць. Разумеў, што супраціўляцца не трэба.

**«НН»: Адбіцца ж, відаць, маглі.**

**РМ:** Ну, я не скажу, што сам ішоў туды. Нешта спрабаваў ім растлумачыць, але не дапамагло, усё адно затрымалі. Гэта на іх сумленні застанецца.

**«НН»: Як сядзелася?**

**РМ:** Перанесці ўсім пад сілу. Але нейкі непрыемны адбітак застаецца. Я б цудоўна жыў, не ведаючы, што такое ізалятар і турма. На Акрэсціна былі не дужа добрыя ўмовы, але стаўленне чалавечае. У Жодзіне добрыя ўмовы, але стаўленне — як да сабак.

**«НН»: Што за людзі, з якімі сядзелі?**

**РМ:** Людзі розныя — студэнты, дырэктары фірмаў, пенсіянеры. Нармальныя, знайшлі супольную мову. Многія проста праходзілі міма. Быў мужчына, што паехаў па памперсы для дзіцяці, выходзіў з крамы, калі яго затрымалі. Пенсіянер гуляў з сабачкам.

### Тут кожны за сябе

**«НН»: Колькі на год выпадае баёў?**

**РМ:** Залежыць ад спартсмена. Ёсць магчымасць біцца раз на месяц. Калі ты выйграў папярэдні бой лёгка, то зразумела, што можаш выходзіць потым на рынг вельмі хутка. Бывае, што ты не можаш біцца паўгода. Нельга ўвесь час працаваць да знямогі. Трэба накопліваць апетыт. Хаця часам трэба пераадольваць сябе. Ідзеш пасля працы ў залу, а табе не хочацца, хочацца паспаць. Але трэба. Каб інтарэс заставаўся, трэба ўмець і адпачываць. Гэта не камандны від спорту, дзе адзінаццаць чалавек бегаюць. Адзін з іх можа выкладвацца і не на 100%, але каманда выйграе. Тут кожны сам за сябе, і ўсё залежыць ад цябе. У нас калі прайграеш, то няма на каго зваліць віну. Вінаваты толькі сам. Мне гэтым і падабаецца, што кожны адказвае за сябе.

**«НН»: Камандныя віды спорту не любіце?**

**РМ:** Мне цікава пабегаць у рэгбі, пагуляць у футбол, мячык у баскетболе пакідаць. Але каб я быў фанатам, то такога няма.

**«НН»: Ёсць меркаванне, што адзінаборствы развіваюць эгаізм.**

**РМ:** Не сказаў бы. Мне здаецца, што развіваецца толькі нейкая мэтаскіраванасць. Гэта залежыць ад характару, калі чалавек нейкі пафасны, ці пахабны, то гэта будзе адбівацца і ў спорце, і ў жыцці. Тое ж і пра людзей сціплых. Мой цесць кажа: «Што мне падабаецца ў вашым спорце, дык гэта як вы калоціце адзін аднаго, разбіваеце твар у кроў, а пасля бою абдымаецеся і ціснеце адзін аднаму рукі». У мяне ў спорце няма ворагаў, толькі супернікі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

### Сцісла

• **Пунтус у «Вігваме».** Тытулаваны беларускі футбольны трэнер Юры Пунтус нядоўга хадзіў без працы. Пасля развітання з брэсцкім «Дынама» ён узначаліў смалявіцкі «Вігвам». Гэтая каманда з арыгінальнай назвай гуляе ў другім дывізіёне чэмпіянату Беларусі. Пунтус вядомы працай з БАТЭ, МТЗ-РІПА, моладзевай і нацыянальнай зборнай.

• **Рэвалюцыя ў Паўднёвай Амерыцы.** У Аргенціне працягваецца розыгрыш футбольнай «Копа Амерыка». Там гуляюць паўднёваамерыканскія каманды плюс дзве запрошаныя. Сенсацыя сёлетняга розыгрышу — пралёт міма паўфіналаў зборных Аргенціны і Бразіліі. Гранды аступіліся на Уругваі і Парагваі адпаведна. Таксама ў чацвёрку наймацнейшых выйшлі Чылі і Венесуэла.

• **Японкі з золатам.** А вось у жаночым футболе фаварыты зусім іншыя, чым у мужчынскім. У фінале чэмпіянату свету ў Германіі сустракаліся ЗША і Японія. Другія перамаглі па пенальці. Падобны фінал у мужчынскіх спаборніцтвах быў бы сенсацыйным.

• **У матаболе з медалём.** Ва ўкраінскім Вазнясенску скончыўся чэмпіянат Еўропы па экзатычным відзе спорту — матаболе. Гэта калі спартсмены на матацыклах спрабуюць забіць мяч у вароты суперніка. У гульні за «бронзу» нашы хлопцы разграмілі Украіну — 8:2. першае ж месца ўзялі расіяне, якія перамаглі немцаў.

• **Шакіла О'Ніла вінавацяць у забойстве людзей.** Славуты амерыканскі баскетбаліст трапіў у эпіцэнтр вялікага скандалу. Ягоны сябар Роберт Рос абвінавачаў Шака ў некалькіх замовах на забойствы — музычнага прадзюсара, крымінальнага аўтарытэта, каханкі. Адвакаты О'Ніла называюць абвінавачванні «выдумкай».

ЗП

# Пераварот у настроях: вёска ўзненавідзела Лукашэнку



Піша **Мікола Бугай**.

Прыехаў да бацькоў у Брэст. На маёй памяці не было такога мокрага года: усё ў нізкіх месцах павымакала. Людзі непакояцца за бульбу: яна можа падгніць, а людзі моцна разлічвалі на гароды сёлета.

Што мяне найбольш уразіла, дык гэта змена ў настроях.

У маіх родавых вёсках — гэта Прылукі, Заказанка, Страдзічы на поўдзень ад Брэста — як і ўсюды ў сёлах Заходняй Беларусі, доўгія гады Лукашэнка карыстаўся падтрымкай мо якіх 80% жыхароў. Супраць яго былі моцныя гаспадары-прыватнікі — праціўнікі савецтызму. Супраць яго былі сем'і з моцнай нацыянальнай свядомасцю. Супраць яго выступалі асобныя інтэлігенты, якія не прымалі хамства. Нарэшце, з ідэалагічных меркаванняў — сямейныя каштоўнасці, знішчэнне палітычных праціўнікаў — супраць яго галасавалі ў пратэстанцкіх грамадах. Але ў цэлым пенсіянерская, калгасная большасць была за яго, цвёрда.

Усё ўраз перамянілася сёлета. Як быццам айсберг перакуліўся. Рост цэн і абвал дабрабыту выклікалі рэзкую перамену ў настроях. Не засталося нікога за Лукашэнку.

Я са сваім сталічным рацыяналізмам аказваюся цяпер у вёсцы памяркоўным цэнтрыстам. У крамах і каля аўталавак людзі клянуць, кажуць, што ідзе «здзек з людзей». Ідэалагічных работнікаў у вёсцы практычна няма, акрамя як у сядзібе калгаса, прапаганду за Лукашэнку ў вёсцы вядуць толькі праваслаўныя бацюшкі — адзін з іх у нашым кусце вайсковы адстаўнік.

Крыўдуюць за абкраданне ўкладчыкаў, за непамерныя цэны: алей у аўталаўцы каштуе ўжо 12 тысяч рублёў бутэлька. Мяне ўразіла, што адзін дзядзька ездзіў у Брэст у сераду — «хлопаты» на Плошчу. Усё гэта жыва абмяркоўваецца між суседзямі.

Абзываюць дзяржаўнае ТВ і радыё падпяваламі.

Мусіць, гэта стома. Лукашэнка заседзеўся. Усё кепскае цяпер звязваюць з ім, як калісь

> Усё кепскае цяпер звязваюць з ім, як калісь звязвалі ўсе надзеі.

звязвалі ўсе надзеі. Разбітая вуліца, непамерныя выплаты па крэдыце, няма дапамогі цяжка хвораму, не купіць імпартных таблетак.

Страх у вёсцы, у адрозненне ад горада, звязаны найперш з дзецьмі і ўнукамі. Што хто зробіць пенсіянеру?

Народная любоў зменлівая. Калі б сёння атачэнне Лукашэнкі абвесціла пра ягонае адхіленне ад улады, вёска радасна абмывала б перамену.

«Яго будуць судзіць!» — мацюкаюцца тыя самыя, хто 17 гадоў таму прывёў яго да ўлады.

# Як Расія бароніць дыктатараў

Аўтар «НН» пабываў на паседжанні Пастаяннай рады АБСЕ ў Вене, дзе абмяркоўвалася беларускае пытанне. Піша **Сяргей Богдан.**

Выпраўляючыся ў Вене на паседжанне Пастаяннай рады АБСЕ, я наўмысна праглынуў мацнейшай кавы, прадчуваючы чарговае зануднае дыпламатычнае мерапрыемства з абмеркаваннем беларускага пытання. Памыліўся, бо прадстаўнік расійскага ўрада хутка ператварыў звыклыя дыпламатычныя перапалкі ў сапраўднае «сутыкненне цывілізацый».

### Беларускі «зубр» і расійскі «мядзведзь»

Венская Пастаянная рада Арганізацыі па бяспецы ды супрацы ў Еўропе — гэта не міжпарламенцкі орган, куды часам трапляюць скандальныя персанажы. Гэта месца, дзе сядзяць прадстаўнікі ўрадаў, якім належыць стрымліваць эмоцыі. Дык вось, паслы 55 дзяржаваў так і рабілі.

Нягледзячы на выразную канфрантацыю, нават узбекскі і туркменскі прадстаўнікі стрымана рэагавалі на даволі жорсткую заяву ЕС і ЗША наконт сітуацыі ў іх краінах. Можна казаць пра крывадушнасць, аднак паводзіліся дыпламаты гэтых краін прыстойна.

Прыстойна выступіў па балючых для беларускага ўрада пунктах — сярод якіх было і пытанне па «Нашай Ніве» і «Народнай волі» — і прадстаўнік Беларусі Сідарэнка. Праўда, па-расійску, аднак гэта таксама адна з моваў АБСЕ, хаця большасць выступае па-англійску.

Затое прадстаўнік 56-й краіны — Расіі — вылучаўся ва ўсім.

Анвар Азімаў адкрытым тэкстам абвясціў, што не будзе выконваць правілы сходу. «Здравый смысл» — гэта прапанова Расіі не абмяркоўваць становішча ў Беларусі, Узбекістане і Туркменістане: «Вы ўжо разбудзілі беларускага зубра, цяпер разбудзіце і расійскага мядзведзя». І тут жа прыгразіў, што бараніцьме «Белоруссию», Узбекістан і Туркменістан, «бо гэта нашы саюзнікі».

Прынагодна Азімаў прыгразіў заблакаваць прыняцце бюджэту, калі ў АБСЕ на працу не возьмуць больш расійцаў. Гэта прагучала так дэструктыўна, што генеральнаму сакратару давялося браць слова і перасцерагаць наконт разбуральнасці паводзінаў «некаторых краінаў», якія звязваюць працаўладканне сваіх людзей з працэсам фармавання бюджэту.

Паседжанне ўключала развітанне з генсакам АБСЕ, чый тэрмін скончаўся. Але калі ўсе дэлегацыі складалі яму стандартныя дыпламатычныя падзякі, дык расійскі прадстаўнік і тут вылучыўся, пачаўшы прамову з фразы:

«Пьер де Ришамбо воплощает собой высокий профессионализм, который не пропьешь, хотя я предпринимал усилия в этом направлении с генсеком».

Небарака-генсак, відаць, і сам не ведаў, што тут гаварыць.

Аднак справа не толькі ў Азімаву. Падчас іншае публічнае дыскусіі прадстаўнікоў амерыканскай, ірландскай і расійскай дэлегацыяў сітуацыя выглядала падобным чынам. Калі заходнікі абцякальна і дыпламатычна гаварылі штосьці пра аптымізацыю выдаткаў АБСЕ ды пераналкіраванне грошай, Валерый Маслін бразнуў: «Не ведаеце, дзе ўзяць грошы — а мы казалі — не трэба пасылаць столькі назіральнікаў на выбары!» Ці трэба казаць, што ён прытым пастаянна называў нашу краіну «Беларашай», што некарэктна, бо адзіны варыянт назвы нашай краіны для ангельскай мовы — гэта толькі Belarus і ніяк не Белараша.

Цікава, што знаёмыя з расійскага МЗС не хавалі свайго захаплення Азімавым. Заходнія ж дыпламаты пасмяяліся і адказалі, што гэта, маўляў, Russian style у дыпламатыі, а немец патлумачыў: дык яны заўжды спачатку так равуць і пагражаюць, але пасля мы іх абломваем.

### Бяспека для Расіі і небяспека для Еўропы

Але, мабыць, абломваць удаецца далёка не заўсёды. АБСЕ — арганізацыя, заснаваная на кансэнсусным прынцыпе рашэнняў, таму амаль любая краіна можа спыніць нялюбую ёй пастанову. У выніку апошнія некалькі гадоў бюджэт арганізацыі не расце, а сама яе палітыка перажывае цяжкія часы.

Расія і саюзныя ёй дыктатары спрабуюць максімальна звузіць у дзейнасці АБСЕ аспекты, звязаныя з правамі чалавека, выбарамі і дэмакратызацыяй. Масква настойвае: арганізацыя — па бяспецы ў Еўропе, таму давайце мацаваць бяспеку ды вырашаць вайсковыя пытанні, узбраенні, дыслакацыю аддзелаў і г.д., дзеля чаго Расія хацела б падпісаць з усімі еўрапейскімі дзяржавамі новую дамову аб еўрапейскай бяспецы. Масква не дае рады супрацьстаяць НАТО, дык была б радая звязаць гэты блок дамоўнымі абавязаннямі ды расхістаць яго падмуркі. Прыкладам, замест яснай структуры НАТО стварыць некалькі паралельных структураў бяспекі, у якіх краіны ўдзельнічалі б адначасова, ды парушыць каардынацыю дзеянняў заходняга блоку.

Расхістванне расійцамі падмуркаў заходніх арганізацыяў — гэта тактыка, якая ўжо дзейнічае і ў АБСЕ, і ў Еўрасаюзе.

Прыкладам, сцвярджанне АБСЕ аб прыхільнасці яе чальцоў да дэмакратычнай палітычнай мадэлі ды вольных выбараў, прапісаныя ў яе дакументах, ужо ўспрымаюцца з усмешкай, бо ў шэрагах арганізацыі мноства краінаў з яўна тыранічнымі рэжымамі, кшталту Узбекістана ці Туркменістана, а летась у Арганізацыі старшыняваў не хто іншы, як Казахстан.

У адказ на крытыку палітычнага ўціску ў гэтых ды іншых дзяржавах гучыць шматгалосы постсавецкі дыпламатычны хор, маўляў, ва ўсіх краінах ёсць праблемы, чаму вы правяраеце толькі нас. І як увогуле быў абраны ваш Буш у 2000-м годзе? Чаму на апошнія выбары ў Вялікабрытанію пасланыя былі толькі сем назіральнікаў, а ў Казахстан — у сто разоў болей?

Рупячыся пра бяспеку, Масква хацела б адначасова пазбыцца такой структуры АБСЕ, як размешчанае ў Варшаве Бюро па дэмакратычных інстытуцыях і правах чалавека (БДІПЧ).

Дасыланыя Бюро назіральнікі не раз фіксавалі непрыемныя для Расіі моманты, звязаныя з парушэннямі на выбарах у самой Расіі і ў іншых постсавецкіх дзяржавах. Таму не дзіва, што скарга на БДІПЧ і яго «падвойныя стандарты» суправаджае любыя развагі расійскіх дыпламатаў наконт АБСЕ.

Спрыяльная для Расіі тэндэнцыя назіраецца і з палявымі місіямі арганізацыі. Калі раней постсавецкія краіны заклікалі да сябе місіі АБСЕ, бачачы ў іх прызнанне ўласнага суверэнітэту, дык цяпер усе яны спрабуюць такіх місіяў пазбыцца, бачачы ў іх таўро непаўнавартасці. Закрыццё Офіса АБСЕ ў Мінску пры канцы мінулага года стала толькі адным звяном у гэтым працэсе на прасторах былога СССР. Вялікія місіі працуюць сёння толькі ў Таджыкістане і Кыргызстане. У выніку арганізацыя рызыкуе незабаве сапраўды згарнуцца да жаданага Расіяй фармату ды абмежавацца лічэннем ракетаў і танкаў.

* * *

Міжнароднае становішча беларускага кіраўніцтва пасля выбараў моцна пагоршала, яго дзяўбуць ужо з тых флангаў, дзе раней такога звычайна не здаралася, напрыклад, ААН.

АБСЕ даўно з'яўляецца натуральнай пляцоўкай для крытыкі Лукашэнкі з боку іншых дзяржаваў. І падтрымка Расіі ў такіх варунках вельмі патрэбная афіцыйнаму Мінску.

Праўда, і самой Расіі апошнім часам карціць пазбыцца няўручнага для яе мінскага сябра. Думка пра тое, што «бацька» Расіі непатрэбны і насамрэч ён — гэта яшчэ адзін Саакашвілі (вярхоўны нячысцік у расійскай імперскай дэманалогіі), так часта выказваецца ў кулуарах расійскімі дыпламатамі, што часам складаецца ўражанне пра існаванне нейкага кансэнсусу наконт гэтага сярод расійскага істэблішменту.

*Вена — Мінск*

# Нацыянальная катастрофа. Гарэлка танная, і нацыя співаецца



Ад пачатку года цэны на большасць тавараў і прадуктаў — ад дызпаліва да алею — выраслі прыкладна ўдвая. Толькі на гарэлку цэны выраслі на сціплыя 25%.

Людзям, схільным да спажывання алкаголю, у такіх умовах псіхалагічна цяжка ўтрымацца. Усё падаражэла, дык хоць вып'ю.

Співаюцца будаўнікі, співаюцца калгаснікі. Гэта робіцца нацыянальнай трагедыяй, нацыянальнай безвыходнасцю. Іншаземцы жахаюцца, калі трапляюць у беларускую правінцыю.

Белстат сабраў звесткі, якія дактары называюць шакавальнымі: за першыя 6 месяцаў гэтага года гарэлкі прадалі на 10,5% больш, чым за першае паўгоддзе летась.

Доля гарэлкі ў агульным спажыванні алкаголю ў пераліку на чысты спірт склала 43,8% (у студзені-чэрвені 2010 года — 44,6%).

І расце спажыванне не толькі гарэлкі. Піва за паўгоддзе прадалі на 22,8% больш.

Доля алкаголю ў рознічным таваразвароце ў цэлым складае больш чым дзясятую частку.

Пры гэтым выдаткі на здарэнні і траўмы, выкліканыя алкаголем, на дзяцей-сіротаў, на зніжэнне якасці работ і прадукцыі, абцяжарваюць бюджэты аховы здароўя і бізнэсу. Прыкладна кожнае трэцяе злачынства здзяйсняецца асобамі ў стане алкагольнага ап'янення, і амаль палова пацярпелых у грамадскіх месцах ў нецвярозым стане.

Алкаголь у Беларусі, асабліва моцны, у разы таннейшы, чым у краінах Еўразаюза, дзе высокімі цэнамі на спіртное і цыгарэты людзей адахвочваюць ад нездаровага ладу жыцця.

Мяркуючы па дынаміцы росту, за гэты год спажыванне алкаголю ў краіне дасягне новага рэкорду. Дагэтуль рэкорднымі былі 2008 і 2010 гады.

Паводле ацэнкі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, кожны беларус у пераліку на чысты спірт у 2010 годзе спажыў 15,13 літра алкаголю. Гэта выводзіць нашу краіну ў дзясятак найгоршых на гэтым паказчыку ў свеце. Прычым у Беларусі пераважаюць кепскія формы п'янства, бо людзі п'юць моцныя напоі.

За апошнія 20 гадоў спажыванне алкаголю вырасла больш чым у 2 разы. Згодна з медыкамі, планка, пасля якой пачынаецца актыўная дэградацыя чалавечага патэнцыялу супольнасці, — 8 л на чалавека ў год.

«Пытанне аб насычэнні рынка ўжо не стаіць. Такая тэндэнцыя пагражае дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне», — прызнаваў яшчэ ў 2009 годзе намеснік міністра гандлю М.Свянцiцкі.

Пры захаванні цяперашніх цэнаў на алкаголь і тытунь Беларусь не мае шанцаў на развіццё.

**Сяргей Гезгала**

Пры канцы СССР бутэлька гарэлкі каштавала столькі ж, колькі 4 кг добрага мяса. Цяпер за 1 кг свініны можна набыць 2 бутэлькі, і яшчэ застанецца на закуску.

# Герой «Віцебскай справы №2» паступае ў ВНУ

Яго бацькі дабіваюцца пакарання следчых, якія выбівалі паказанні.

Пра Аляксандра Логінава і яго сяброў, на якіх віцебскія міліцыянты спрабавалі «павесіць» забойства беспрацоўнага, «НН» пісала ў сакавіку («НН»№9, 2011). Трое старшакласнікаў правялі паўтара года ў СІЗА. Да іх у камеру падсаджвалі крымінальнікаў, Аляксандра Логінава месяц трымалі ў «Навінках». Але 16-гадовы падлетак не агаварыў сваіх сяброў. У выніку Магілёўскі абласны суд апраўдаў абвінавачаных.

Пра тое, як склаўся лёс Аляксандра пасля вызвалення, «НН» расказаў яго бацька Хачатур Хачатуран. За паўгода хлопец адужаў навучальную праграму за два гады. Здаў 17 экзаменаў — большасць на «васьмёркі», некалькі на «дзявяткі» і адзін на «дзясятку». Сярэдні бал — трошкі вышэйшы за 8. Цяпер хлопец рыхтуецца паступаць у Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт. На цэнтралізаваным тэставанні Аляксандр набраў 228 балаў. Летась прахадны бал на ягоную спецыяльнасць — «Прамысловае грамадзянскае будаўніцтва» — складаў 182 балы, таму ён паступіць без праблем.

Вучыцца збіраецца на завочным аддзяленні. «Ён сам прыняў такое рашэнне. Хоча вучыцца і яшчэ дапамагаць маці, таму ўладкаваўся на працу. Я ім ганаруся!» — кажа бацька Аляксандра. Да слова, Аляксандр працаваў на будоўлі і да таго, як у чэрвені 2009 года яго арыштавалі. Працуе хлопец і цяпер, таксама на будоўлі, цесляром.

Жыццё Аляксандра пакрысе наладжваецца. А яго бацькі спрабуюць дабіцца справядлівасці ў Генпракуратуры. Пад калектыўнымі лістамі падпісваюцца дзясяткі неабыякавых. Яны патрабуюць адказаць на пытанні, чаму вінаватыя ўздзеку з іх дзяцей не былі пакараныя.

Пакуль бацькі атрымліваюць з Генпракуратуры адказы, што следства працягваецца, а вінаватыя атрымалі дысцыплінарныя спагнанні. «Мы сотні лістоў напішам, пакуль вінаватых не пакараюць», — кажа Хачатур Хачатуран.

**Сямён Печанко**

# Дэфіцыт у банкаматах? Нацбанк абвяргае

Дэфіцыт рублёў у некаторых апаратах прымушае беларусаў перастрахоўвацца.

Банк «Масква-Мінск» увёў ліміт на аднаразовае здыманне рублёў у памеры не больш за 300 тысяч. Агенцтву «Інтэрфакс» у банку гэта патлумачылі тым, што Нацбанк не ў поўным аб'ёме задавальняе заяўкі банкаў на атрыманне наяўных.

Праблемы ёсць і ў іншых банках. Сапраўды, карэспандэнт «Нашай Нівы» ў пятніцу не змог зняць свой заробак у трох банкаматах запар: «Белінвестбанка», «Беларусбанка» і «Белаграпрамбанка». Супрацоўнікі «Беларусбанка» і «Белінвестбанка» назвалі дэфіцыт рублёў «тэхнічным збоем».

Такія збоі здараюцца ў Беларусі апошнім часам усё часцей.

Чуткі пра ўвядзенне суткавага ліміту здымання рублёў прымушаюць беларусаў перастрахоўвацца і здзяйсняць перыядычныя «набегі» на абменнікі. У выніку наяўныя рублі сканчаюцца, а інкасацыя часам затрымліваецца на дзень-два. У прыватнасці, вось ужо які дзень запар не працуе большасць банкаматаў «БелСвісБанка».

Прадстаўнікі Нацбанка запэўніваюць, што заяўкі камерцыйных банкаў па-ранейшаму выконваюцца. «Заяўкі растуць, мы праводзім іх аналіз, і ўсе першачарговыя патрабаванні банкаў у наяўных у беларускіх рублях мы імкнемся задаволіць», — каментуе начальнік галоўнага ўпраўлення Нацбанка па Мінску і Мінскай вобласці Васіль Палонскі.

**Яўген Васількоў**

# Па размеркаванні цяпер засылаюць і ў Венесуэлу

Туды едуць новыя будаўнікі.

У далёкай Баліварыянскай Рэспубліцы Венесуэла побач з беларускімі будаўнікамі будуць працаваць цяперашнія выпускнікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, піша газета «Вечерний Брест». Дзевяць дыпламаваных спецыялістаў, сярод якіх нават адзін «платнік», павінныя днямі з'ехаць па размеркаванні ў горад Маракай.

Дэкан будаўнічага факультэта падкрэсліў, што размеркаванне ў Венесуэлу адбываецца выключна па добрай волі пяцікурснікаў.

Маракай размешчаны на поўначы Венесуэлы, за 25 кіламетраў ад узбярэжжа Карыбскага мора. Гэта сталіца і найбуйнейшы горад штата Арагуа. Хлопцы будуць майстрамі будаўнічых і мантажных работ, а будаваць ім трэба будзе вялікі жылы мікраквартал.

**Сяргей Мікулевіч**

# Зрабілі «красіва»

Царкву XVII ст. пад Докшыцамі абабілі сайдынгам.

Два гады таму царкву Перамянення Гасподняга ў вёсцы Порплішча часткова пакрылі сайдынгам. Сёлета




**У 2009 годзе карэспандэнты «НН» пабачылі на царкве вось такія непісьменныя аб’явы.**

«еўрарамонт» працягнулі ўсярэдзіне царквы. На думку старшыні Таварыства аховы помнікаў Антона Астаповіча, такія дзеянні — злачынства. Астаповіч звярнуўся ў пракуратуру раёна з лістом, у якім просіць прыцягнуць да адказнасці арганізатараў і выканаўцаў працаў у царкве ў адпаведнасці з ч.2 арт. 344 КК за наўмыснае пашкоджанне гісторыка-культурнай каштоўнасці групай асобаў.

Выпадак з царквой у Порплішчы, дзе царкоўны прыход сумесна з святаром перарабляюць храм на свой капыл без ведама адпаведных органаў улады, не адзінкавы. Найбольш пашыраны спосаб «удасканалення» храмаў — чаплянне купалоў-цыбулін на дахі бажніцаў, якім такія абнаўленні не пасуюць па стылі. Так, у 2008 годзе ў Клецку мясцовы настаяцель усталяваў «цыбуліны» на дах былога дамініканскага касцёла. Летась купалы з’явіліся на царкве Барыса і Глеба ў Навагрудку. А драўляную царкву ў Гошчаве Івацэвіцкага раёна ўпрыгожылі не толькі «цыбулінамі», але і шклопакетамі, і сайдынгам. І гэта далёка не поўны спіс.

**Сямён Печанко**

**Царква Перамянення Гасподняга ў Порплішчы** стаіць у цэнтры вёскі, насупраць касцёла, каля дарогі Докшыцы — Глыбокае. Пабудаваная ў 1627 з дрэва як уніяцкая. Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. У іканастасе выкарыстаныя фрагменты ацалелага разьблёнага драўлянага ўніяцкага алтара XVIII ст. у стылі барока, упрыгожанага драўлянай скульптурай анёлаў.





**100 год таму, падчас Сталыпінскай рэформы, беларусы масава перасяляліся ў Прыбайкалле. Там утварыліся цэлыя беларускія вёскі. Там дзейнічае музычны гурт «Крывічы», створанае Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. 13 ліпеня яны выступілі ў Мінску. Кіраўніца гурта Вольга Галанава расказала, што яе прабабуля і прадзед, жывучы ў Сібіры, да скону так і не навучыліся гаварыць па-расійску. А гэты ручнік яна выткала сама.**

**Zbsb.org**



# Топ-5 унікальных пабудоваў у Мінску

Паміж безлічы бізнэс-цэнтраў, рэзідэнцый кіраўніка дзяржавы ды проста аднолькавых з выгляду панэлек у сталіцы Беларусі ствараюцца аб’екты, якія стануць першымі ў сваім родзе. У свой час такімі «піянерамі» рабіліся першы Лядовы палац, першы падземны гандлёвы цэнтр, першая веладарожка... Час іх стварэння ўжо даўно прайшоў, і на змену ім прыйшлі іншыя навінкі.

«Наша Ніва» прапануе ТОП-5 «унікальных» будаўніцтваў для Мінска.

Удакладняем адразу, што аб’екты такога кшталту ўжо даўно не ноу-хау для суседніх сталіц. Але для беларускай сталіцы яны першыя.

### 1. Аквапарк




Аквапарк узрастае на свабодным участку паміж МКАДам, праспектам Пераможцаў і Драздамі. Замест замежнага інвестара будуе яго «Мінскбуд», а грошы (вядома ж, у крэдыт) даў БПС-Банк.

Галоўныя пытанні выклікае праект. Хапацца за галаву прымушае хаця б шчырая фраза архітэктара аквапарку Аляксандра Цяльцова: «Паколькі сцены аквапарку зробяць са шкла, ёсць небяспека, што летам усярэдзіне памяшкання можа быць спякотна, а зімой холадна».

Тым не менш на псеўданавуковы эксперымент выдаткоўваецца каля $100 мільёнаў.

Апошнія прагнозы — аквапарк будзе здадзены ў 2013 годзе.

### 2. Хмарачос

У сталіцы дарабляюцца адразу некалькі будынкаў, вышэйшых за 100 метраў. Самы высокі з іх — «Ветразь» на рагу вуліц Кальварыйскай, Клары Цэткін, Ціміразева і Максіма Танка. Ягоная вышыня ўжо дасягнула 100 метраў, але будаўніцтва апошніх двух-трох паверхаў нечакана замарозілі. Паводле непацверджанай інфармацыі, віной сталі перабоі з пастаўкамі будматэрыялаў. «Ветразь» павінен дасягнуць 133 метраў.

### 3. Трохузроўневая развязка



Ужо ў канцы гэтага года на скрыжаванні праспектаў Дзяржынскага і Жукава павінная з’явіцца першая ў краіне трохузроўневая развязка. Па сумяшчальніцтве гэта будзе самы доўгі ў горадзе пуцепровад. Яго працягласць складзе каля 460 метраў.

Першы ўзровень — ужо існуючы праспект Жукава, трэцім, самым высокім, стане праспект Дзяржынскага, які і будуюць цяпер. Існуючае кола, праз якое аўтамабілі будуць заязджаць з ніжняга праспекта на верхні, будзе называцца другім узроўнем. Для прыгожага слова развязку часам называюць чатырохузроўневай, бо пад ёй будзе праходзіць лінія метро. Чым не дадатковая дарога?

### 4. Кіламетровы дом

На тым самым праспекце Дзяржынскага неўзабаве павінен узнікнуць яшчэ адзін «самы-самы» аб’ект. Гаворка вядзецца пра жылы дом, які расцягнецца больш за кіламетр, ад вуліцы Хмялеўскага амаль што да самага праспекта Жукава. Яго даўжыня перавысіць адзін кіламетр! Даволі шырокая вуліца Шчорса будзе прапушчаная ў арку дома-гіганта і пройдзе пад кватэрамі.

### 5. Гатэль для сабак

Самы недарагі, але самы арыгінальны праект у нашым хіт-парадзе. Ужо год у Мінску павольна ідзе будаўніцтва гатэля для жывёл. Пад будынак выдзелена пляцоўка каля гадавальніка «Фаўна горада» на вуліцы Гурскага.

У новым гатэлі будзе 150 месцаў для жывёл, праўда, кошт знаходжання там катоў і сабак невызначаны. Гасцініцу плануюць пабудаваць за два гады.

**Ягор Марціновіч**

# Чалавек двух светаў

**Беларускую душу ён пачаў спасцігаць за тысячы кіламетраў ад радзімы продкаў — у Канадзе. Але і сёння з гонарам адзначае: «У сэрцы я застаюся беларусам!» Прапаведнік Юрка Рапэцкі нарадзіўся ў нямецкім Гановеры, а жыве ў канадскім Таронта.**



**Юрка Рапэцкі**

Нар. у 1946 у Гановеры (Германія) у сям'і беларускага пратэстанцкага пастара. Рыхтаваў рэлігійныя перадачы для радыё. Рэдактар беларускамоўнага перакладу Бібліі Васіля Сёмухі (2002). Аўтар кніг «Новае жыццё ў Хрысце», «Пакуты… чаму?» Жыве ў Таронта (Канада). Мае двух сыноў і пяцёра ўнукаў.

Бацькі сп. Юркі паходзяць з Палесся: бацька Якуб — з вёскі Новы Дварэц на Піншчыне, маці Яўгенія Апанасік — з Рыбнікаў з-пад Баранавіч. Пазнаёміліся яны падчас Другой сусветнай вайны. Шлюбам пабраліся ў Мінску ў студзені 1944 года, дзе разам з мінскай Царквой евангельскіх хрысціян (пастар Антон Кецко) даглядалі яўрэйскіх дзяцей у двух прытулках (нацысты не ведалі, што дзеці ў тых прытулках яўрэйскія).

Якуб Рапэцкі быў вядомым сярод беларускіх евангельскіх хрысціянаў міжваеннай Польшчы прапаведнікам і прэсвітэрам яшчэ з 1930-х. Як немцы пачалі адступаць, ён выехаў разам з сям'ёй на Захад. Разумеў, што з камуністамі жыць у адной дзяржаве не ўдасца.

### Па вольных дарогах

Мінск Рапэцкія пакінулі восенню 1944 года. Ад'ехалі ў Нямеччыну. Якуб служыў там пастарам славянскай евангельскай царквы ў лагеры для перамешчаных асобаў. У Гановеры 1 сакавіка 1946-га ў іх нарадзіўся першы сын Юрка. Праз год — другі сын Іосіф, якога ў сям'і называлі Юзё. А яшчэ праз год сям'я пераехала ў Канаду.

«Лічылася, што ЗША і Канада — самыя жаданыя краіны, самыя надзейныя. Яны ўяўляліся краінамі новых рэальных магчымасцяў і свабоды, таму і стараліся трапіць туды, і чым далей ад камуністаў. Ці памыліліся бацькі? Ніколі такога не казалі нам. Толькі радаваліся, што Бог дапамог ім пераехаць і выхоўваць сваіх дзяцей у такой свабоднай краіне. Ці сумавалі па радзіме? Вельмі! І якая радасць была, калі раз у год прыходзіў ліст ад родных. На жаль, маці памерла, не вярнуўшыся на радзіму. Бацьку ў гэтым пашчасціла: ён двойчы наведаў Беларусь».

Не менш важнай прычынай пераезду было і тое, што Якуб Рапэцкі адшукаў адрас свайго добрага сябра Івана Гука. Той пераехаў з Заходняй Беларусі ў Канаду яшчэ ў 1920-я, дзе працаваў на ферме. Пасля вайны сп. Гук жыў у горадзе Таронта. Рапэцкі напісаў яму ліст з просьбай знайсці сям'ю, якая магла б прыняць іх і аплаціць прыезд. Іван Гук вырашыў усе пытанні. «Праверыўшы здароўе кожнага з нашай сям'і, канадскія ўлады ў Гановеры далі ўсе патрэбныя дакументы. І ў кастрычніку 1948 года мы пераехалі ў Канаду».

Больш за год пражылі з беларускай сям'ёй на ферме ў правінцыі Саскачаван. Там Юрка пачаў хадзіць у школку, дзе ўпершыню і пачуў англійскую мову. Яму запомнілася, як настаўніца прасіла дзяўчынку жэстамі паказваць, што азначалі незразумелыя яму словы. Калі чыталі слова «скакаць» — дзяўчынка скакала. А пасля Якуб Рапэцкі знайшоў працу на чыгунцы ў горадзе Саскатун, куды і пераехалі. Набылі дом. Там Юрка парцягнуў спасцігаць школьную навуку. «І мне стала цяжэй тады, бо ў чытанні першакласнікі пайшлі шматразова далей, чым я. Памятаю, як маці будзіла мяне вельмі рана, каб праходзіць з ёю чытанку. Яна сама не ведала англійскай мовы. У нашым доме жылі кватаранты ўкраінскага паходжання, і вечарамі мама звярталася да іх па дапамогу ў правільным вымаўленні незнаёмых слоў. Яна запісвала сабе польскімі літарамі вымаўленне і гэтым чынам магла мяне вучыць і папраўляць. Усё гэта было вельмі цяжка». Але за год падцягнуўся і ўжо ў другім класе свабодна размаўляў па-англійску.

Якуб Рапэцкі ў Канадзе фармальна сваёй пастарскай дзейнасці не аднавіў. «Служыў прапаведнікам, бо сваёй царквы, дзе яго афіцыйна лічылі пастарам, не было. У заходняй Канадзе, дзе мы жылі, былі раскіданыя суполкі славянскіх братоў і сясцёр па веры ў розных мясцэчках. Мы часта адведвалі тыя суполкі ды цэлай сям'ёй выступалі са спевамі. Я граў на скрыпцы, Юзё на акардэоне, сястра Марыя (нарадзілася ў 1951 годзе) на піяніна, ну, а мама з татам, а з імі і мы, спявалі хрысціянскія песні па-расійску і па-беларуску. Там, дзе мы цэлай сям'ёй выступалі з музыкай і спевамі, тата заўсёды прапаведаваў. У гэтым сэнсе ён служыў пастарам сярод канадскіх усходніх славян».

Пасля дзясятага класа Юрка даведаўся, што ў іншай школе па вечарах выкладаецца расійская мова. Запісаўся і два гады наведваў тыя заняткі. А пасля школы паступіў у Саскачаванскі ўніверсітэт. Планаваў стаць настаўнікам біялогіі, але больш цягнула да славістыкі: паралельна наведваў заняткі расійскай мовы і літаратуры (год таксама вывучаў украінскую). А на чацвёртым курсе засяродзіўся толькі на прадметах, звязаных з расійскай мовай і Савецкім Саюзам.

У 1968 годзе Рапэцкі ажаніўся з канадкай Люсіл і пераехаў у горад Эдмантан. Жонка скончыла курсы па выкладанні ў інстытутах для медсясцёр, а Юрка пасля ўніверсітэта закончыў яшчэ магістратуру і напісаў дысертацыю «на англійскай мове пра «хождение в народ» і як гэты рух паўплываў на расійскіх пісьменнікаў — да таго часу і пасля». Але расійскую літаратуру так ніколі і не выкладаў.

### Хрысціянскі місіянер

У 1971-м Юрку Рапэцкаму прапаведнік Іван Гук прапанаваў супрацоўнічаць з тарантаўскай Хрысціянскай місіяй. Прапанову той прыняў, і сям'я Рапэцкіх пераехала ў Таронта. Івану Гуку сп. Юрка спачатку дапамагаў у падрыхтоўцы расійскай радыёпраграмы Транссусветнага Радыё ў Монтэ-Карла. Яна транслявалася на СССР. Пазней Рапэцкі пачаў рабіць уласную расійскамоўную праграму «На крыльях размышлений» для таго самага радыё. А ў сярэдзіне 1980-х разам з бацькам арганізаваў беларускамоўную праграму для Транссусветнага Радыё. «Мы пачалі пісаць рэлігійныя казані, запісваць іх і на стужках высылаць для надавання на Беларусь. Гэтая штотыднёвая перадача «Добрая вестка» выходзіла больш за дзесяць гадоў».

Але перад беларускамоўнай праграмай Рапэцкі ўзяўся ўдасканальваць сваё веданне роднай мовы. «Што асабліва важна для мяне ў Таронта — знаёмства з спадарствам Пашкевічаў — Валянцінай, Міхалам і іх дзецьмі Паўлам і Эвай. Я папрасіў дазволу прыходзіць да Валянціны, каб ад пачатку да канца прайсці яе падручнік па беларускай мове. Яна ахвотна згадзілася. Маё наведванне спн. Пашкевіч працягвалася прыблізна два гады. Я проста цешыўся з таго, што нарэшце знайшоў чалавека, які можа дапамагчы мне ўдасканаліць веды па беларускай мове. Тыя два гады разам з ёю былі самыя прыемныя, цудоўныя і павучальныя. Я пачаў пісаць па-беларуску казані, і яна іх папраўляла. У выніку мы таксама мелі цікавыя размовы пра іх змест».

Гучалі яго казані і на Беларускім радыё — пасля 1989-га.

### На зямлі продкаў

У 1970-х гадах Юрка Рапэцкі тройчы наведаў Беларусь, пасля чаго «дарога туды закрылася для мяне да 1989-га».

«Мы з жонкай упершыню адведалі Беларусь улетку 1971-га года: правялі 10 дзён у Мінску. Запомнілася, як мы нарэшце цягніком пакінулі Берасце і я глядзеў на палі. Думаў сабе: хаця тут не нарадзіўся, я ўсё-такі сын гэтага краю, і цяпер сын вяртаецца да сваіх каранёў. Праслязіўся. Я ніколі не думаў, што адведаю зямлю бацькоў».

Наведвалі Рапэцкіх у Мінску сваякі, з якімі раней ніколі не бачыліся. «Мы таксама сустракаліся з братамі і сёстрамі па веры, бо існавала адна суполка евангельскіх хрысціян-баптыстаў для ўсяго горада. Аднаго разу трапілі на спеўку харыстаў. Разам заспявалі, і рэгент даў мне магчымасць кіраваць хорам. Якія моцныя галасы тыя харысты мелі! І спявалі з глыбокім перакананнем аб праўдзівасці тых слоў, якімі яны славілі Бога і Хрыста. Хоць я ведаў, што амаль ўсе вернікі пераносілі вялікія цяжкасці, ніхто пра тое не казаў нам... Маё прабыванне ў Беларусі дапамагло зразумець сваіх бацькоў».

### Праз пакуты да зораў

«Я чалавек двух светаў — Беларусі і Канады», — адзначае пра сябе прапаведнік. І дадае: «Мая сям'я чыста канадская, бо мы з жонкай размаўляем толькі па-англійску, як і з двума сынамі. Я стараўся вучыць сваіх хлапцоў, але яны казалі мне: «Дзеля якой мэты? Мы — канадцы і будзем жыць у Канадзе, не будзем адведваць зямлю тваіх бацькоў і дзядоў, даражэнькі тата!» Я іх і не змушаў. Зразумела, каб жонка мая была славянкай, дык справа пайшла б па-іншаму».

Ад 2009 года Юрка Рапэцкі знаходзіцца на пенсіі. Сыходзіў з надзеяй дапісаць чарговую кнігу. І дапісаў. Летась яна выйшла ў Беларусі — «Пакуты... чаму?»

«Праблема зла прымушае нас думаць, чаму Бог дазваляе пакутаваць чалавеку. Знайсці адказы нялёгка, але трэба шукаць. І вось у кнізе «Пакуты...чаму?» я стараюся даць біблійны адказ на праблему зла і пакутаў, прынамсі, як я біблійныя тлумачэнні разумею і ўспрымаю». У 2010 г. сп. Юрка цягам месяца наведаў 25 пратэстанцкіх цэркваў у Беларусі, дзе дарыў вернікам сваю кнігу.

На пенсіі Юрка Рапэцкі не толькі адпачывае. Летась ён прадаў свой дом, у якім пражыў з сям'ёй амаль тры дзесяцігоддзі, і набыў меншы. Цяпер сам рамантуе і перарабляе яго. Разам з жонкай наведвае англамоўную пратэстанцкую царкву, дзе служыць адным з духоўных старэйшынаў. «Нашая канадская царква таксама дапамагла мне ў здабыцці апаратуры для запісу беларускіх духоўных казаняў. Я іх запісваю на кампакт-дыскі і высылаю некаторым знаёмым па ўсім свеце». І заўжды трымаецца беларускага за мяжой: бярэ ўдзел у дзейнасці Згуртавання Беларусаў Канады. Хаця і адзначае, што хацеў бы рабіць больш. Ён поўны планаў. «Думаю, што напішу яшчэ кнігу на духоўную тэму. Сярод беларусаў евангельскага веравызнання на беларускай мове замала багаслоўскай літаратуры пішацца і выдаецца. Адчуваю, што пакуль Бог дае мне сілу і здольнасці, Ён хоча, каб я займаўся такой працай».

**Сяргей Макарэвіч**

# Волан-дэ-Морт нагадаў Самі-ведаеце-каго

**Апошні фільм пра Гары Потэра набыў нечаканае беларускае вымярэнне.**



Сямітомнік англійскай пісьменніцы Джаан Роўлінг пра хлопчыка-чараўніка Гары Потэра — самая папулярная дзіцячая кніга ў свеце. Хоць бы таму, што, ператвораная ў кінаэпапею, выклікала ў падлеткаў цікавасць да чытання. А гэта, пагадзіцеся, поспех па сённяшніх мультымедыйных часах.

Здымкі першага фільма «Патэрыяны» пачаліся ў 2000-м, прэм'ера апошняга, восьмага, адбылася ў гэтым ліпені. Чытачы і гледачы дзесяць гадоў назіралі за сталеннем Гары, візуальны вобраз якога ў масавай свядомасці ўжо неадрыўны ад актора Дэніэла Рэдкліфа ў круглых ленанаўскіх акулярах.

Прывабнасць задумы кнігі і фільма ў тым, што дзея адбываецца ў пазнавальным сённяшнім дні, толькі ў паралельнай рэчаіснасці. Гэта дазволіла акторам, героям і гледачам нібыта суіснаваць і сталець разам. «Патэрыяна» перарасла ў сапраўдную субкультуру — у часе прэм'еры ў Лондане цэлая вуліца была дэкараваная пад завулак з



магічнага свету, фанаты Потэра размяталі там з крамак «чароўныя» сувеніры.

Гэтаксама ў канву «Патэрыяны» ўкладаюцца і чуткі пра ранні алкагалізм «зорнага хлопца» Рэдкліфа, і інфармацыя пра прыбыткі актораў. А за адзінаццаць гадоў шалёнага поспеху героі кінасерыяла з сімпатычных дзяцей ператварыліся ў маладых багацеяў — яшчэ да выхаду 8-га фільма эксперты ацэньвалі багацце Рэдкліфа ў 71 мільён даляраў. Эма Уотсан (Герміёна), дзякуючы здымкам, а таксама рэкламным кантрактам з прэстыжнымі маркамі Burberry і Chanel, зарабіла 32 мільёны, а выканаўца ролі рудога ірландца Рона Уізлі, Руперт Грынт, мае каля 30 мільёнаў даляраў. Цяжка сказаць, знойдуць яны сабе ў кіно іншыя настолькі ж яскравыя вобразы ці застануцца акторамі адной ролі. І ці трэба ім тое кіно ўвогуле — з такімі грашыма.

Восьмы, заключны фільм пра Гары Потэра ўзяў рэкордную касу — толькі за першы дзень пракату ў кінатэатрах ЗША фільм сабраў 61 мільён даляраў. Усім цікава было ведаць, як жа ўрэшце скончыцца гэтая бітва дабра са злом.

А скончылася яна так, як і чакалася: без выхаду за рамкі вечных сюжэтаў. Гары Потэр памёр, але ўваскрос. Тройца станоўчых герояў урэшце адшукала «кашчэеву смерць» Волан-дэ-Морта, і злы чараўнік незваротна сканаў.

Зрэшты, яго і ў мінулых серыях знішчалі з вялікай пэўнасцю. Дый Джаан Роўлінг сказала, што Гары Потэр — яе дзіця, і яна можа вярнуць яго ў гульню ў любы момант. Дый пры канцы паказалі кадры, як Гары, Рон і Герміёна, загрымаваныя пад сталейшых людзей, выпраўляюць у Хогвартскую школу чараўнікоў сваіх дзяцей. Так што працягі цалкам магчымыя. Асабліва калі іх будуць патрабаваць маркетынгавыя мэты.

Дарэчы, пра Волан-дэ-Морта, імя якога ў фільме звычайна замяняецца эўфемізмам «Самі-ведаеце-хто». Яго маналогі, адзначаюць наведнікі мінскіх кінатэатраў, выклікалі ў часе фільма апладысменты і смех. Прычым такога ж характару, як бываюць цяпер у серады на плошчах вялікіх гарадоў Беларусі. Тыя, хто пераагучваў фільм, здагадаліся надаць голасу Волан-дэ-Морта сіплы і павучальны тон, адзначае газета «Салідарнасць». А яго маналогі пра агульную палітычную сітуацыю, падкопы ворагаў і будучыню рэальнасці, якую ён стварае, выклікалі ў мінскіх гледачоў фурор.

Што да самога фільма, дык ён выйшаў нагружаны спецэфектамі — больш камп'ютарная гульня, чым казка. Зразумець увесь фільм, не прайшоўшы «ўзроўні» сямі папярэдніх «Гары Потэраў», складана. І выяўна не хапала жывасці першых серый. Нібыта створаная цягам «Патэрыяны» магічная атрыбутыка хавае пад сабой сюжэт.

Было ўражанне, што ўсе — героі, гледачы і акторы — сабраліся разам дзеля супольнай цяжкай, але неабходнай місіі: давесці ўрэшце «Гары Потэра» да канца.

**Сяргей Мікулевіч**

## Канцэрт у дзень народзінаў Вайцюшкевіча пад пагрозай

**Прычына — «раптоўны рамонт» залы. Спявак ліхаманкава шукае іншае памяшканне.**



Музычна-літаратурная вечарына «Аб часе і аб сабе» з нагоды дня нараджэння Зміцера Вайцюшкевіча мусіла адбыцца 20 ліпеня ў мінскім ДК ветэранаў. 15 ліпеня стала вядома, што ДК ветэранаў правесці канцэрт не можа — рамонт. Нечаканыя рамонты, прарывы трубаў і іншыя няшчасці так і пасыпаліся на беларускія канцэртныя пляцоўкі пасля ўзнікнення «чорнага спісу» выканаўцаў. Зміцер Вайцюшкевіч у спіс уваходзіць.

«Гэта з ДК у нас не першы раз так атрымліваецца, — кажа музыка. — Цяпер мы шукаем альтэрнатыўнае месца, каб канцэрт усё ж такі адбыўся і прыйшлі прынамсі тыя, хто ўжо набыў квіткі. Калі канцэрт адбудзецца — мы паведамім, дзе ён будзе. Калі не — таксама паведамім. Аднак мяняць дату мы не збіраемся».

За апошнія паўгода канцэрты адмяняліся не толькі ў Зміцера Вайцюшкевіча: гэтаксама ад паўлегендарнага «чорнага спісу» пацярпелі такія вядомыя музыкі, як «Нейра Дзюбель», Лявон Вольскі, «Ляпіс Трубяцкой».

**ЮУ**

БІБЛІЯТЭКА

## «Варашылаўград» Жадана з'явіўся ў Мінску

**Галоўны ўкраінскі раман 2010-га «трымае» да апошняй старонкі.**

На мінскіх кніжных выставах з'явіліся адзінкавыя асобнікі рамана Сяргія Жадана «Варашылаўград». Сам раман выйшаў яшчэ восенню, паспеў назбіраць станоўчых водгукаў і нават прэмію Бі-Бі-Сі за найлепшы ўкраінскі раман года. На рускай мове «Варашылаўград» з'явіўся ў сярэдзіне вясны, прычым выдала яго ўкраінскае ж «Фолія». І вось толькі летам пару асобнікаў трапілі на кніжныя кірмашы Мінска.

Агульны наклад расійскамоўнай версіі — 2000 асобнікаў: палова ў цвёрдай вокладцы і палова — у мяккай. Для гэтай кнігі наклад зусім сціплы — тым больш што Жадан даўно ператварыўся ў культавага аўтара далёка за межамі Украіны.

Падзеі «Варашылаўграда» адбываюцца ў Луганскай вобласці ў 1990-я. Брат галоўнага героя, які валодае прыдарожнай запраўкай ля невялікага роднага горада (назва якога, дарэчы, у тэксце так і не згадваецца), знікае ў невядомым кірунку, і галоўны герой вымушаны вярнуцца на малую радзіму, дзе сутыкаецца з мясцовымі рэйдарамі, цыганамі, наркаманам-папом, што прапаведуе нейкую дзіўную рэлігію, і з іншымі, не менш каларытнымі персанажамі. А ў якасці невядомага і страчанага яшчэ ў дзяцінстве раю фігуруе нябесны Варашылаўград з савецкай паштоўкі.

Сяргій Жадан заўважна змяніўся за апошнія гады — «Варашылаўград» нашмат бліжэйшы па сваім адчуванні свету да зборніка «Anarchy in Ukr», чым да больш ранніх кніг «Дэпеш Мод», і зборнікаў «Гімн дэмакратычнай моладзі». Новы раман, які сам аўтар характарызуе як раман «пра джаз і Данбас», месцамі вельмі сентыментальны, месцамі жорсткі, спалучае ў сабе ўсе класічныя для Жадана прыёмы: ад іроніі да адчування, што разам з 90-мі сышла нейкая частка нашага жыцця, якая ўжо ніколі не вернецца і па якой кожны, таемна ці не таемна, але сумуе. Але тут, як раней у «Анархіі», ёсць тэма вяртання дадому, хаця мы прывыклі, што ў жаданаўскіх творах вакзал і замежжа займаюць значнае месца. Настальгія па дзяцінстве і маладосці ў Жадана не выклікае нуды, кніга «трымае» да апошняй старонкі. А яшчэ ўзнікае жаданне ўбачыць той самы нябесны Варашылаўград.

**Юрась Ускоў**

## сцісла

• **Гран-пры конкурсу «Віцебск-2011» дастаўся Алёне Ланской з Беларусі.** Конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2011» праходзіў на юбілейным «Славянскім базары». Алёне Ланской быў уручаны «Гран-пры» ў рэкордным памеры $15 тыс. Першую прэмію журы пад старшынствам міністра культуры Паўла Латушкі прысудзіла артысту Данецкага музычна-драматычнага тэатра Уладзіміру Квасніцу. Яму дасталіся $9 тыс. Спецыяльная прэмія імя Уладзіміра Мулявіна за найлепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы, высокае выканальніцкае майстэрства была ўручаная Дайнісу Скутэлісу (Латвія). У юбілейным конкурсе бралі ўдзел 20 выканаўцаў з 20 краін. Гран-пры дзіцячага конкурсу заваявала 10-гадовая Ралука з Румыніі. Летась перамогу святкаваў яе суайчыннік Марыя. Найвышэйшая ўзнагарода дзіцячага конкурсу складае $5000.

• **Акцыя «Чытаем Купалу разам» стартавала ў Татарстане.** Яна пачалася 7 ліпеня і завяршыцца роўна праз год — акурат да 130-годдзя песняра. Акцыя стартавала ў вёсцы Пячышчы пад Казанню. Тут у вайну Янка Купала знаходзіўся ў эвакуацыі.

• **Галерэя «Ў» атрымала прэстыжны прыз на Art Vilnius 2011.** 13 ліпеня ў Вільні былі абвешчаныя пераможцы міжнароднага кірмаша сучаснага мастацтва Art Vilnius 2011. Мінская галерэя сучаснага мастацтва «Ў» атрымала прэстыжны прыз «Найлепшая замежная галерэя». На стэндзе галерэі былі прадстаўленыя беларускія мастакі Руслан Вашкевіч, Жанна Гладко, Аляксей Губараў, Міхаіл Гулін, Уладзімір Лапа, Ігар Саўчанка.

• **У Мінску выступіць адзін з заснавальнікаў Depeche Mode.** 2 верасня Эндзі Флетчэр адыграе ў Мінску dj-сэт. У аснове многіх яго кампазіцый – класічныя хіты «дэпешаў». Канцэпцыя яго тура — пабываць у тых месцах, куды яшчэ не прыязджалі Depeche Mode. Да Беларусі ён паспеў выступіць у Румыніі, Украіне, Аўстраліі, Тайландзе. Канцэрт адбудзецца ў выстаўным комплексе «Белэкспа».

**СМ**

# Грунвальд як канцылярская памылка

**15 ліпеня мінуў 601 год з дня бітвы войскаў ВКЛ і Польшчы з крыжакамі, якая адбілася на далейшым лёсе цэлых народаў. Піша Алег Дзярновіч.**

Гэтымі ліпеньскімі днямі мы зноў прыгадваем падзеі Грунвальдскай бітвы, калі ў 1410 г. на абшарах тагачаснай Прусіі сышліся з аднаго боку саюзнае войска Вялікага Княства Літоўскага и Польшчы, з другога — армія Нямецкага ордэна, укамплектаваная таксама найманымі аддзеламі. Бітва для польска-літвінскага боку стала пераможнай. На полі засталася значная частка ордэнскага войска. Торуньскі мір, які завяршаў Вялікую вайну 1409—1411 г., замацаваў за Польшчай частку прускіх зямель, а Жмудзь, пасля ста пяцідзесяці гадоў гандлю ёй паміж ліцвінскімі ўладарамі і магістрамі Ордэна, нарэшце была канчаткова далучана да ВКЛ.

Дыскусіі вакол Грунвальдскай бітвы не сціхаюць дагэтуль. І не толькі ў асяроддзі прафесійных гісторыкаў. Якой была колькасць войска з абодвух бакоў (пэўна толькі тое, што саюзнікі пераўзыходзілі па колькасці ордэнскія аддзелы)? Хто рэальна камандаваў польска-літвінскім войскам — Ягайла ці Вітаўт? Адступленне літвінаў было ўцёкамі ці манеўрам...? Але сярод гэтай гамы пытанняў ёсць адно, якое значна менш уздымалася ў гістарыяграфіі: адкуль, уласна, узялася там добра вядомая нам цяпер назва бітвы?

## Традыцыя нямецкая: За Таненберг!

Пруска-крыжацкія крыніцы першапачаткова называлі тую вайну зусім проста — вайна ці канфлікт (bellum, coflictus). У нямецкамоўнай версіі даволі хутка ўсталявалася назва Вялікая бітва (der grosse Streit). У пасляграунвальдскім, блізкім да бітвы часе, гэтае вызначэнне мела пэўную вобразнасць і было сінонімам «вялікай паразы».

Што да самога месца бітвы, то ў 1412 г. у крыжацкіх крыніцах яно было акрэслена як Streitplatz альбо Walstat — папросту месца бітвы. Ад прадаўжальніка «Хронікі Прускіх зямель» Памезанскага афіцыяла (духоўнага суддзі) Ёгана фон Пасільге ідзе нямецкая традыцыя называць месцам бітвы Таненберг (Tannenberg). Паводле гэтага храніста Таненберга — «вёска ў акрузе Остэрродэ». Вось жа, апошні названы крыжацкі замак быў вядомы ў старабеларускім пісьменстве як Астроўна.

Толькі раз у нямецкіх крыніцах, а менавіта ў Некралогу Дому Нямецкага Ордэна ў Маастрыхце, месца бітвы падаецца «каля Вержбіцы [побач з] адной вёскай, званай Грунфельд» (Grünfeld / Gruenvelt). Grünfeld у перакладзе азначае «Зялёнае поле». Такое паведамленне магло тычыцца апошняга этапу бітвы ды ўцёкаў ордэнскага войска — менавіта ля Грунфельда апынуліся крыжацкія аддзелы, калі вымушаны былі ратавацца пасля разгрому.

Асобна адзначым, што ў сярэдненіжненямецкай мове фраза «прыходзіць на поле» («ze velde komen») мае значэнне «рыхтавацца да..., распачынаць барацьбу, турнір» («zum kampf, turnier antreten»). Таму для нямецкага храніста з'яўленне слова «поле» ў дачыненні да бітвы выглядала зусім не выпадковым.

Але ў нямецкай традыцыі канчаткова ўсталявалася назва «бітва пад Таненбергам». Ні Таненберг, ні Грунфельд не былі значнымі населенымі пунктамі, не знаходзіліся там таксама замкі. Але нямецкія крыніцы, называючы Таненберг, указвалі, бліжэй да якога паселішча размяшчалася ордэнскае войска на пачатку бітвы.



Сённяшні Грунвальд як шоу: штогод на месцы бітвы адбываюцца маштабныя касцюмаваныя пастаноўкі для соцень гледачоў.



Пісьмовае абяцанне крыжацкага рыцара Голбрахта фон Лоіма заплаціць выкуп за вызваленне з польскага палону. У сярэдзіне другога радка чытаецца: «...на полі ў Прускай зямлі, якое завецца Грунвальд» («...in campo terre Prussie dicto Gruenwalt»).



У Ваўкавыску ў выходныя адкрылі помнік у памяць Грунвальда і землякоў, якія біліся там. Факт удзелу Ваўкавыскай харугвы ў бітве пацверджаны. Усталявання помніка 44 жыхары Ваўкавыска дабіваліся тры гады — яны звярнуліся з гэтай ініцыятывай у выканкам яшчэ ў 2008-м.

## Як Зялёнае поле стала Зялёным Лесам

У польскіх крыніцах месца бітвы называлася па-рознаму. Першыя паведамленні Ягайлы на наступны дзень пасля бітвы — 16 ліпеня 1410 г., увогуле не даюць ёй назвы, распавядаючы толькі на лаціне пра «поле бітвы» («campus prelii»), з дадаткам «за Дуброўнай», як у лісце да каралевы Ганны; ці «каля Астроўны», як у лісце да біскупа Пазнанскага Альберта. У блізкай па часе стварэння да даты бітвы «Хроніцы канфлікту Уладзіслава, караля Польшчы, з крыжакамі ў год Хрыстовы 1410», складзенай, як мяркуецца, у перыяд між лістападам 1410 і студзенем 1411 г., інфармуе толькі пра «месца бітвы» («de loco conflictus»).

Але ўжо ў 1410 г. з'яўляецца таксама назва, якая пазней стане агульнапрынятай у гістарыяграфіі і гістарычнай свядомасці народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

У першыя месяцы пасля бітвы з канцылярыі Ягайлы яшчэ ішлі дакументы з указаннем Грунфельда, як гэта было зроблена ў лісце ад 16 верасня 1410 г. да біскупа Памезанскага Яна II. У гэтым лісце ўласна і вядзецца пра бітву, што здарылася ў мясцовасці Grunenvelt, гэта значыць Grünfeld (тут трэба адзначыць, што нямецкае «v-» у словах незамежнага паходжання чытаецца як «f» і сама літара называецца «фаў»).

Але ў канцы таго ж года ў дакументах з'яўляецца і так вядомая нам сёння назва. Гаворка ідзе пра тры дакументы, выдадзеных каралеўскай канцылярыяй у Кракаве 20 снежня 1410 г. у справе выкупу Нікалаўса Варнсдорфа і двух іншых камандзіраў найманых аддзелаў Ордэна. Службовец канцылярыі Ягайлы замест Grunvelt ўжыў Grunwalt.

Існуе яшчэ адзін дакумент, з той жа датай, у якім Гольбрахт фон Лоім, найманы рыцар Нямецкага ордэна, узяты ў палон у бітве 15 ліпеня 1410 г., абяцае заплаціць за сваё вызваленне выкуп у памеры 150 коп чэшскіх грошаў і перадаць адну кальчугу і два арбалеты. Гэты лацінскі дакумент складзены таксама ў Кракаве і цікавы, апроч іншага, формай перадачы месца бітвы — Gruenwalt. З аднаго боку, мы бачым імкненне вельмі дакладна пазначыць нямецкі ўмляўтаваны галосны гук [у:], а дыграф «ue» пазней будуць перадаваць праз «ü» (у з умляутам). З іншага боку, мы бачым, як у назве знікае —feld (поле) і з'яўляецца —walt (–wald) (лес).

Фактычна, гэта была моўная памылка — перапісчык кепска зразумеў назву і ў другім складзе (слове) назвы літару «е» перадаў як «а». А ў нямецкай мове, як адзначалася, напачатку слова літары «v-» і «f-» перадаюць адзін гук — «f». І, такім чынам, «Зялёнае поле» (Grunvelt / Gruenvelt / Grünfeld) трансфармавалася ў «Зялёны лес» (нямецкае Grünwald; у польскай транскрыпцыі Grunwald).

У далейшым гэтая традыцыя замацавалася ў польскіх хроніках. Шмат у чым дзякуючы аўтарытэту храніста Яна Длугаша (1415—1480), які ў сваім маштабным творы «Гісторыя Польшчы» ўказваў месца бітвы «ў полі паміж вёскамі Таненберг і Грунвальд», а таксама «ў вёсачцы Грунвальд». Асноўнай жа назвай у Длугаша стаў Грунвальд.

Чаму, ўрэшце, адпаў Таненберг? Можа, таму, што гэта было «нямецкае бачанне» падзей? Апроч таго, як ужо пісалася вышэй, рэальнае паселішча Грунвальд было звязанае з апошнім, пераможным для саюзнікаў этапам бітвы. Польскія крыніцы працягвалі ўстойліва называць бітву Грунвальдскай, у той час, як паселішча ў Прусіі па-ранейшаму менавалася Грунфельдам. Сам факт існавання назвы паселішча менавіта ў такой форме быў вядомы даследчыкам XIX — XX ст. Але ў беларускай, літоўскай і расійскай гістарыяграфіі замацавалася даўняя польская традыцыя.

## Ваганні ў Вялікім Княстве

Летапісная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага канца XV — сярэдзіны XVI ст. звярталася да тэмы Грунвальда. Нікіфараўскі і Супрасльскі летапісы паведамляюць, што бітва адбылася паміж Дуброўнай і Астроўнай. Супрасльскі распавядае пра гэта так: «На тую восень было пабоішча каралю Ягайлу, імем Уладзіславу, і князю вялікаму Вітаўту Кейстутавічу з немцамі і з прусамі ў Прускай зямлі, між гарадамі Дуброўнам і Острэдай». Але гэтыя паведамленні не арыгінальныя, а амаль слова ў слова паўтараюць апавяданне Наўгародскага IV летапісу.

Праўда, «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», складзеная ў 1520-я, піша, што тая бітва адбылася ля «Стырберка» — гэта значыць, каля Стэнбарка, як у польскай традыцыі пазначаецца Таненберг.

А ўжо «Хроніка Быхаўца» паведамляе менавіта пра Дуброўну: «пад местам нямецкім пад Дуброўнам»; «тыя Дубровенскія палі». Дуброўна — гэта Dambrownis, на якое спасылаецца Ягайла як на сваё месца знаходжання ў наступны дзень пасля бітвы. У польскай традыцыі паселішча завецца Dąbrówno і пазначае нямецкі замак Gilgenburg. Гэтае тапанімічны аб'ект сапраўды быў найбліжэйшым да Грунвальдскіх палёў нямецкім замкам — на адлегласці 9 км ад месца бітвы. 13 ліпеня яго здабылі саюзныя войскі і ўжо адтуль рушылі ў бок месца Вялікай бітвы.

Ці магла Дуброўна стаць уласна літвінскай традыцыяй, замацаванай праз кірылічнае пісьменства? У першай палове XVI ст. так магло адбыцца зусім рэальна. Але пад уплывам польскай тэрміналогіі Грунвальд умацаваў свае пазіцыі ў гістарычнай памяці жыхароў Вялікага Княства. Віцебскі летапіс Панцырнага і Аверкі, складзены ў сярэдзіне XVIII ст., паведамляе пра Грунвальдскую бітву з дакладнай спасылкай на кнігу працы польскага гістарыёграфа Марціна Кромера «Пра паходжанне і гісторыю палякаў»: «Уладзіслаў Ягайла, кароль польскі, крыжакоў... збіў пад Грунвальдам».

Гісторыя з назвай Грунвальдскай бітвы вельмі павучальная. Яна паказвае, што часам апіска ў назве можа стаць пачаткам для ўзнікнення новага гістарычнага тэрміна. Высвятляецца, ад службоўцаў канцылярыі даволі шмат чаго залежыць. Тут мы бачым той рэдкі выпадак, калі можна дакладна датаваць час узнікнення гістарычнага тэрміна — 20 снежня 1410 г.

Але гэтыя казусы не могуць нам перашкодзіць шанаваць традыцыю.

# Боні і Клайд па-гродзенску

Малады гродзенец з паляўнічай стрэльбай напаў на начную краму. Дзяўчына чакала ў аўто.

5-я раніцы, начная крама. У памяшканне заходзіць малады чалавек у масцы з паляўнічай стрэльбай. Ён заўважна нервуецца, то ўскідваючы зброю на прадаўца, то адводзячы ўбок. Потым бярэ ў рукі скрынку і сыходзіць. Гэта не фільм. Раніцай 14 ліпеня па вуліцы Суворава ў Гродне быў здзейснены ўзброены напад на начную краму. Невядомы прыхапіў з сабой 170 тысяч рублёў выручкі, скрыню цыгарэтаў, сеў у цёмны легкавік і з'ехаў.

На свабодзе ён знаходзіўся нядоўга. Падзеі ў краме зафіксавала відэакамера. І ўжо а 10-й раніцы следчыя дапытвалі ўласніцу аўто, маладую дзяўчыну. Яна аказалася знаёмай налётчыка. Экспертыза пацвердзіла, што менавіта яе аўто было ноччу на месцы злачынства. Неўзабаве затрымалі і гангстара. Ім аказаўся 21-гадовы жыхар Гродзенскага раёна, беспрацоўны, несудзімы. У ягоным доме знайшлі нарабаванае і стрэльбу.

Па папярэдніх дадзеных, у разбойным нападзе ўдзельнічалі абое: дзяўчына чакала ў машыне, хлопец са стрэльбай дзейнічаў у краме. На гродзенскіх «Боні і Клайда» завялі крымінальную справу па артыкуле «Рабаўніцтва».

**СП**




# Дзмітрый «Пітбуль» Сцепаненка ў рэанімацыі

Вядомы мінскі байкер разбіўся на матацыкле.

Аварыя адбылася ў суботу, 16 ліпеня, у 17.30 ля супермаркета BIGZZ. Паводле папярэдняй інфармацыі, шафёр чырвонага «Форда Фокус» не прапусціў матацыкліста, калі ішоў на паварот. У аўтамабіля пашкоджаны перад, матацыкл перакуліўся. Сцепаненку адразу адправілі ў шпіталь хуткай дапамогі, дзе, згодна з паведамленнямі сяброў-байкераў, яму адразу зрабілі аперацыю. Дыягназ — чэрапна-мазгавая траўма і кровазліццё ў мозг.

Паводле афіцыйнай заявы ДАІ, верагодным вінаватым у ДТЗ з'яўляецца кіроўца «Форда». Яго стаж зусім невялікі — трошкі больш за год. Байкеры адкідаюць версію, што прычынай здарэння магла быць высокая хуткасць матацыкла: мадэль Honda Gold Wing яны называюць «канапай на двух колах», гэта хуткі турыстычны матацыкл.

У нядзелю з'явілася інфармацыя, што байкер прыйшоў у прытомнасць і нават змог паснедаць. Аднак



у панядзелак яго сябры пашырылі заклік здаваць крoў, патрэбную на пераліванне.

Дзмітрый Сцепаненка — адзін з самых вядомых байкераў Беларусі, заснавальнік байкерскага клуба Racing Clan MCC, а таксама арганізатар і ўдзельнік шматлікіх байкерскіх мерапрыемстваў, апошнім з якіх было «адкрыццё сезона» ў красавіку 2011 года. Таксама Пітбуль вядомы змаганнем за правы матацыклістаў — у сваіх інтэрв'ю ён неаднаразова расказваў пра «непаразуменні», якія ўзнікаюць паміж прадстаўнікамі ДАІ і байкерамі. Пры гэтым Дзмітрый — прыхільнік бяспечнага руху, а таксама негалосных правілаў узаемадапамогі на дарозе.

**ЮУ**



# Аварыя на «Беларуськаліі»: з'явіліся чуткі пра падземнае возера ў рудніках

Вакол сітуацыі на «Беларуськаліі» з'яўляюцца новыя версіі. Нагадаем, у ноч на 24 чэрвеня руднік 2-га рудаўпраўлення прадпрыемства падтапіла. Спярша інфармацыя трапіла ў інтэрнэт. Афіцыйныя заявы з'явіліся з тыднёвым спазненнем.

Інфармацыі вобмаль, таму новыя чуткі працягваюць узнікаць. Так, партал Newspeak.by піша са спасылкай на ананімную крыніцу на «Беларуськаліі», што падчас даследаванняў радовішчаў знойдзена вялікае падземнае возера. Нібыта гэтая знаходка можа прыпыніць распрацоўку 2-га і 5-га руднікоў. Пра крытычную сітуацыю піша і мясцовы сайт Салігорск.org.

Тым часам прэс-служба «Беларуськалія» заяўляе, што расолы яшчэ падтопліваюць шахту, але прыток іх зменшыўся, пастаўленыя гідраізаляцыйныя перамычкі, і праца не спыняецца.

«Афіцыйная інфармацыя блізкая да праўды», — паведаміў «НН» прадстаўнік незалежнага прафсаюза прадпрыемства. Ён пацвердзіў, што ў Салігорск прыехалі спецыялісты з-за мяжы, у прыватнасці з Польшчы. «У іх некалі была аналагічная сітуацыя на адным з руднікоў і яны яе паспяхова вырашылі».

**Сямён Печанко**



# Мінскія ДАІшнікі абстралялі школьніка

Ноччу 15 ліпеня ў Мінску на праспекце Незалежнасці супрацоўнікам ДАІ давялося спыняць парушальніка з дапамогай зброі.

Інспектары ДАІ звярнулі ўвагу на аўто «Мазда-6», якое выехала «пад знак» са стаянкі каля ўніверсама «Еўрапейскі». Легкавік вырулiў на праспект праз падвойную суцэльную лінію. Патрабаванні спыніцца кіроўца праігнараваў і пачаў набіраць хуткасць.

На дапамогу падаспелі інспектары ДПС суседняга Партызанскага раёна. Адзін з іх і выразшаў страляць пасля безвыніковых спробаў спыніць парушальніка і пяці папераджальных стрэлаў у паветра. Наступныя тры кулі трапілі ў бампер, левы ліхтар і задняе левае кола. Гэта і спыніла «Мазду».

Парушальнікам выявіўся адзінаццацікласнік, які меў пасведчанне кіроўцы толькі на матацыкл. Аўто належыць яго бацькам.

**Паводле БЕЛТА**

# Шукаю бацьку — Аляксея Клімовіча з Мінска

Прыблізна ў 1947—1949 гг. Клімовіч Аляксей служыў у Латвіі, горад Елгава.

У «НН» напісала Зінаіда Васільева з Латвіі, якая папрасіла дапамагчы ёй адшукаць звесткі пра яе бацьку. Вось што яна піша:

«Прыблізна ў 1947—1949 гг. Клімовіч Аляксей служыў у Латвіі, горад Елгава. Там ён пазнаёміўся з маёй мамай, Васільевай Антанінай Аляксееўнай. Яна працавала ў в/ч 62357 у афіцэрскай сталоўцы. Вайсковы гарадок размяшчаўся на вул. Чырвонаармейская, а штаб, дзе служыў мой бацька, знаходзіўся на іншай вуліцы. Яны рассталіся, калі мне было менш за год. Тата з'ехаў у Мінск, дзе працаваў у міліцыі.

Нашы суседзі ў 1957–1959 праездам былі ў Мінску і зайшлі да яго, але таты не было дома. У яго ўжо была іншая сям'я, у кватэры стаяла дзіцячая калыска з маленькім дзіцем. Магчыма, мой бацька яшчэ жывы або адгукнуцца ягоныя дзеці. Хацелася б даведацца больш пра бацьку».

Кантактны мэйл: martins.ziebergs@inbox.lv

## Сцісла

• **Герой: Юнак выратаваў з вады двух хлопчыкаў.** Двух хлопчыкаў, якія танулі ў рэчцы Рыбчанка (Маладзечанскі раён), выцягнуў з вады 17-гадовы Аляксей Козел, жыхар вёскі Граніччы. Дзеці пераходзілі рэчку праз шлюзы дамбы. Меншы паслізнуўся і ўпаў у ваду. Большы кінуўся яго ратаваць, абодва пачалі тануць. Адна дзяўчына, што адпачывала на беразе, патэлефанавала свайму знаёмаму Аляксею. Той выцягнуў з вады дзяцей. Цяпер іх жыццю нічога не пагражае.

• **У Мінску самагубца выжыў, скочыўшы з 10-га паверха.** Выжыць дапамог так званы «Куб жыцця» — надзіманая прылада, якую ратавальнікі расцягнулі пад месцам магчымага падзення 19-гадовага хлопца. Калі самагубца ўсё ж скокнуў уніз з балкона 10-га паверха, то трапіў у «пастку» ратавальнікаў. І нават не атрымаў сур'ёзных траўмаў. Але на пытанні ратавальнікаў адказаць не мог, бо быў зусім п'яны.

• **У Лепельскім раёне забіты інспектар аховы Бярэзінскага запаведніка.** У лесе ля вёскі Дражна Лепельскага раёна ноччу быў забіты 35-гадовы інспектар аховы Бярэзінскага запаведніка. Злачынства падчас незаконнага палявання ўчыніў 37-гадовы раней судзімы беспрацоўны жыхар Лепеля. Ён страляў з незарэгістраванай стрэльбы. Яго затрымалі.

• **Жанчына везла на «Славянскі базар» 500 доз гераіну.** На пероне чыгуначнага вакзала 9 ліпеня была затрыманая 33-гадовая жыхарка Віцебска, якая прыбыла на цягніку «Масква-Полацк» разам з гасцямі фэсту «Славянскі базар у Віцебску». Падчас ператрусу ў яе былі канфіскаваныя наркотыкі. Супрацоўніца аднoй з прыватных фірмаў Віцебска прыцягнула ўвагу міліцыі частымі паездкамі ў горад Ярцава Смаленскай вобласці і кантактамі з тамтэйшай цыганскай грамадой. У затрыманай канфіскаваны гераін масай 186,93 грама, што складае амаль 500 доз. Раздробны кошт такой колькасці наркотыкаў — 100 млн рублёў.

• **Знойдзена цела аднаго з двух хлапчукоў, што прапалі ў Віцебску.** 15 ліпеня ў Дзвіне знайшлі цела аднаго з двух хлопчыкаў, якія зніклі ў Віцебску 24 сакавіка. Міліцыя апазнала цела па прыкметах хлопчыка і заплечніку. Слядоў гвалтоўнай смерці на целе дзіцяці няма. Шукаюць другога зніклага. Школьнікі 8 і 9 гадоў сышлі з хаты 24 сакавіка і не вярнуліся.

• **Хіцёр Зміцёр: «Мерсэдэс» на цыгарэтным ходзе.** Цыгарэты беларускай вытворчасці «Фэст» — 559 пачак — знайшлі ашмянскія мытнікі «Каменнага Логу» ў колах аўтамабіля «Мерсэдэс-190». Кіроўца так перавозіў кантрабанду ў Літву. Прадпрымальныя кантрабандысты забіваюць пачкамі цыгарэт усе чатыры колы свайго аўтамабіля і ціхенька, па роўнай дарозе, вязуць груз да найбліжэйшага населенага пункта Літвы. Калі кантрабанду на мяжы затрымліваюць, аўтамабіль канфіскуюць. Таму для «бізнэсу» людзі выкарыстоўваюць старэнькія машыны.

• **Хуліганы пакрэацівілі з экскрэментамі.** Вярнуўшыся дадому, жыхарка Баранавічаў была шакаваная. У яе адсутнасць невядомыя заляпалі... гаўном дзверы яе кватэры, а таксама шыбы на пляцоўцы і дзверы ў пад'езд. Жанчына звярнулася ў міліцыю. Затрыманыя два 15-гадовыя падлеткі. Ім інкрымінуецца хуліганства.

**СМ**

# Басовішча — 2011

22—24 ліпеня пад Гарадком на Беласточчыне пройдзе ўнікальны фэст беларускай музыкі «Басовішча-2011».

Сёлета фестываль пройдзе 22-і раз. На ім выгадаваліся некалькі пакаленняў рок-музыкаў і фанаў рок-музыкі.

Гэтым разам ва ўрочышчы Барок зайграюць 12 беларускіх і польскіх гуртоў, у конкурснай праграме ўдзельнічаюць яшчэ 6 маладых камандаў. Весці «Басовішча» будзе Андрэй Такінданг. Акрамя асноўнай музычнай праграмы «Басовішча-2011» таксама прапануе наведнікам сэты дыджэяў і майстар-класы.

Пераможцаў, якія атрымаюць тысячу даляраў, абярэ журы ў складзе: Міхал Аўчарэк — журналіст Польскага Радыё (Trójka — Polskie Radio), Багуслаў Каспярук — музыка (Zero-85), Таццяна Заміроўская — музычны крытык.

Арганізатары абяцаюць сёлета зусім новую і яшчэ большую сцэну з лепшым гукам. Запрошаныя гурты, якія прэзентуюць розныя музычныя жанры. Гледачы пачуюць перадусім рок, метал і панк, але таксама фольк ды электрычную музыку. На тэрыторыі «Басовішча» будзе касмічны цэнтр «Байка-Нур» — пляцоўка, дзе будзе магчымасць выпіць піва ды пагуляць пры dj-сэтах найлепшых ды-джэяў Польшчы. «Басовішча», якое паступова перарасло з рокавага ў агульнамузычны фестываль, цяпер ператвараецца ў агульнакультурны. Калі хтосьці стоміцца канцэртамі, то зможа пайсці ў фестывальную кіназалу або павучыцца на майстар-класах.

## Праграма Басовішча-2011

**22 ліпеня**
- 15:30 Вольная Сцэна
- 16:30 Адкрыццё фестывалю
- 16:40 Конкурс маладых гуртоў
- 18:45 Yellow Brick Road
- 19:45 Akute
- 20:45 Zero-85
- 21:45 R.U.T.A.
- 23:00 TT-34
- 00:00 Exist M
- DJ sety / Bajka-Nur :
- 01.00 TOM ENCORE
- 03.00 EASTERN BORDERLINE MASSIVE

**23 ліпеня**
- 11:00 Майстар-клас трафарэтаў
- 12.00 «Кіно, якое трэба ведаць»
- 15:30 Вольная Сцэна
- 17:00 Лаўрэат конкурсу
- 18:00 Beton
- 19:00 DakhaBrakha & Port Mone
- 20:30 Tymon & Transistors
- 22:00 Neuro Dubel
- 23:30 IQ48
- 00:30 Znich

**23 ліпеня**
- 12:00 «Кіно, якое трэба ведаць»
- 15:00 Паказ вынікаў майстар-класаў

У конкурсе маладых гуртоў выступяць 5 выканаўцаў, абраных журы з 22 дасланых заявак

1. Harotnica
- 2. Yellow Power
- 3. Avias
- 4. Vuraj
- 5. Kashlaty Voh

Пры канцы зайграе гурт Amaroka



# Байкерскі фэст у «Лагойску»


PHOTO BYMEDIA.NET

Трукі на матацыклах, парад байкаў, феерверк, рок-музыка.

Ад 22 да 24 ліпеня 2011 года ў Гарнальыжным спартова-аздараўленчым комплексе «Лагойск» пройдзе шосты міжнародны байкерскі фестываль «Мінск-2011». Самы маштабны адкрыты злёт збярэ каля 1500 удзельнікаў з краін постсавецкай прасторы, Еўропы і ЗША.

Упершыню ў Беларусі з паказальным шоу выступіць трохразовы чэмпіён свету па стантрайдынгу (трукавая язда на матацыкле) Крыс Пфайфер (Германія).

Наведнікі ўбачаць яскравае паказальнае шоу каскадзёраў на матацыклах, традыцыйны парад байкаў, феерверк, канцэртную праграму. Выступяць «Крама», N.R.M., «Гаер» «Піва ўдвух», а таксама госці з Украіны і Расіі.

Урачыстае адкрыццё фестывалю — у 16.30 у пятніцу, 22 ліпеня. Завяршэнне — у 03.15 у нядзелю.

Даехаць да ГСАК «Лагойск» можна машынай — на 35-м кіламетры шашы Мінск—Віцебск будзе ўказальнік на паварот да комплексу. Таксама ад 10.00 у пятніцу, 22 ліпеня, на фестываль пачынаюць курсаваць маршруткі ад аўтавакзала «Маскоўскі».

Цана квітка для наведнікаў: 65 тысяч рублёў (пятніца) і 85 тысяч (субота). Дзецям да 10 гадоў — уваход вольны. Цана квітка для ўдзельнікаў злёту — 145 тысяч рублёў.Даведкі: (29) 336-15-88, (29) 676-15-23.

## КАНЦЭРТЫ

### Вайцюшкевіч на хутары Шаблі

**23 ліпеня на хутары Шаблі** Зміцер Вайцюшкевіч прадставіць юбілейны канцэрт «Найлепшыя песні за ўвесь час». Пачатак а 20-й. Квіткі ад 60 да 90 тыс. руб. Як даехаць: Хутар Шаблі — вёска Малое Запруддзе, 29а, Валожынскі раён. 80 км ад Мінска ў бок Вільні. Арыенціры — вёска Гародзькі, вёска Лоск.

### Tanin Jazz

**20 ліпеня ў «Графіці»** (зав. Калініна, 16) — Tanin Jazz. Пачатак а 19-й. Даведкі: (29) 638-44-44, (33) 638-44-44.

### Музычна-літаратурная вечарына «Аб часе і аб сабе» з нагоды дня народзінаў З. Вайцюшкевіча

**20 ліпеня а 19-й. ДК ветэранаў** (вул. Я. Купалы, 21). Квіткі — ад 30 да 50 тыс. Набыць можна ў пераходзе ст. м. «Пл. Я. Коласа» (выхад да філармоніі) і ў ДК ветэранаў.

### Бетховен, Фостэр, Сібеліюс — у Філармоніі

**21 чэрвеня ў Вялікай зале філармоніі** (пр.Незалежнасці, 50) грае Дзяржаўны акадэмічны Сімфанічны аркестр. У праграме: Л. ван Бетховен — уверцюра «Леанора», Г. Фостэр — фантазія для фартэпіяна з аркестрам «Анастасія» з сюіты «Перліна Дубая» (першае выкананне ў Мінску), Я.Сібеліюс — Сімфонія №1. Салістка — Міра Еўтыч, фартэпіяна (Сербія). Дырыжор — Заўрбек Гугкаеў (Расія).

### Тузін Unplugged: гурты «Akute» і «Nevma»

31 ліпеня а 18-й ў «Графіці» (зав. Калініна, 16). Канцэрт гуртоў «Akute» і «Nevma» ў межах праекту «Тузін Unplugged».

### «Гаротніца»

29 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16) — гурт «Гаротніца». Самі сябе музыкі называюць «дэструктыўным пажарным аркестрам з жаночым вакалам, элементамі ска, класікі, джазу і яскрава выражанай маргінальнай творчай пазіцыяй». Пачатак а 19-й.

### Квартэт Андрэя Барылы

27 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16) — квартэт саксафаніста-віртуоза Андрэя Барылы. Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Традыцыйны фэст «Гліняны Звон»

30 ліпеня. Івянец. Пачатак а 9-й раніцы. Традыцыйны фэст майстроў керамікі. Арганізатар: Івянецкі музей традыцыйнай культуры. Наведванне фэсту бясплатнае, у тым ліку для арганізаваных экскурсій. Сам музей у гэты дзень працаваць не будзе (за выняткам хіба керамічных майстэрняў), але ёсць магчымасць наведаць адчынены нанова прыватны музей народнага разьбяра А. Пупко (вул. Камсамольская, 87).

### III Фестываль славы беларускай зброі «Грунвальд»

30-31 ліпеня. Дудуткі. Пачатак аб 11-й.

Тэл: (29) 303-86-46, (29) 303-81-07, (29) 602-52-50.

## ВЫСТАВЫ

### Вялікія муміі Егіпта

З 12 ліпеня да 12 жніўня ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь пачаў працаваць пазнаваўча-забаўляльны праект «Вялікія муміі Егіпта», што ўлучае аднайменную выставу і кароткаметражны гульнёвы фільм «Цар скарпіёнаў» у 3D-фармаце.

### Кветкі, што пырхаюць

Да 3 жніўня ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10) пачала працу выстава матылькоў «Кветкі, што пырхаюць». На ёй дэманструюцца самыя прыгожыя і знакамітыя матылькі і экзатычныя насякомыя з усяго свету: з трапічных лясоў Паўднёва-Усходняй Азіі, Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі і Акіяніі.

### Ротмістр Вітольд Пілецкі

Да 24 ліпеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12) працуе дакументальная выстава «Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901 — 1948». Яе зладзіў Польскі інстытут у Мінску ў гонар арганізатара польскага падполля ў Асвенцыме і ўдзельніка Варшаўскага паўстання, расстралянага саветамі пасля вайны.

### «Італія, бацькаўшчына натхнення…»

Да 4 верасня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20) працуе выстава расійскага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Матвеева, Айвазоўскага, Рэймерса, Броннікава, Ге.

## ТЭАТРЫ

**20 ліпеня**

Музычны — «Каханне па-італьянску»
Кінаактора — «…Забыць Герастрата!»
Беларускай драматургіі — «Сёстры Псіхеі»
Купалаўскі — «Памінальная малітва»

**21 ліпеня**

Музычны — «Любоў па-італьянску»
Горкага — «Леў зімой»
Кінаактора — «№13»
Беларускай драматургіі — «Шчаслівы муж»
Купалаўскі — «Каханне ў стылі барока»

**22 ліпеня**

Горкага — «Леў зімой»
Кінаактора — «№13»
Купалаўскі — «Паўлінка»

**23 ліпеня**

Горкага — «Вяселле Крэчынскага»
Кінаактора — «Поле бітвы»

**24 ліпеня**

Горкага — «Эдып»
Кінаактора — «Поле бітвы»

**26 ліпеня**

Горкага — «Нататкі стомленага рамантыка»
Кінаактора — «Заноза»

**27 ліпеня**

Сучасны мастацкі — «Фігара.tut»

**28 ліпеня**

Сучасны мастацкі — «Фігара.tut»

# Сямейка Apple

«Айфоны», «айпады», «айподы» — як не заблытацца сярод модных навінак?



Айпад. Магчымасці: інтэрнэт, аўдыё, відэа, фота- і відэакамера, набор тэкстаў праз вялікі сэнсарны экран.

Прыстаўка «ай», якую выкарыстоўвае ў назве сваіх прадуктаў фірма Apple, вытворца дакладнай тэхнікі і галоўны канкурэнт Microsoft на сусветным рынку, робіць любы тавар дарагім і прэстыжным. Гэта рэаліі 2011 года. Што казаць, калі гандлёвую марку ацанілі ў $150 мільярдаў! Брэнд стаў самым дарагім у свеце, а надкушаны яблык — эмблема Apple — сімвалам пасьпяховасці.

Арыентавацца ў навінках папулярнай карпарацыі — патрэба часу, каб не адчуць сябе лішнім у сучасным інфармацыйным грамадстве. Такім чынам, экскурсія па самых папулярных прадуктах Apple.

**Айфон (iPhone)** — разумны тэлефон (смартфон). Менавіта гэты прадукт прынёс Apple сусветную славу. Ідэю адмовіцца ад клавіятуры і пакінуць толькі адну кнопку ўпадабалі людзі па ўсім свеце, якія скупаюць вось ужо чацвёртае пакаленне апаратаў. Хоць галоўнае прызначэнне апарата — тэлефонная сувязь, набор дадатковых функцый пераўтварае айфон у шматфункцыянальны комплекс. Здымкі, зробленыя апошняй мадэллю, слаба адрозніваюцца па якасці ад фатаграфій «мыльніц».

Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў стаў уладальнікам айфона за дзень да пачатку афіцыйных продажаў. Неўзабаве такі апарат журналісты ўбачылі і ў руках Колі Лукашэнкі.

У продажы можна знайсці iPhone 4 ад $700.

**Айпэд, айпад (iPad)** — планшэтны камп'ютар. Ён выпабляецца з 2010 года, але сёлета пачаліся продажы другога пакалення айпадаў. Гэта любімае «дзіця» заснавальніка Apple Стыва Джобса. Ён марыў стварыць планшэты яшчэ ў сярэдзіне 2000-х, але вырашыў спачатку заняцца іншымі прадуктамі.

У ЗША, Кітаі і некаторых еўрапейскіх краінах сфамаваўся культ айпадаў. Першы мільён копій быў прададзены менш чым за месяц, нават айфоны прадаваліся ўдвая марудней. У дзень пачатку продажаў ля ўсіх фірмовых крамаў выстройваюцца шматсоценныя чэргі людзей, якія гатовыя начаваць пад дзвярыма кампаніі.



Айфон. Магчымасці: тэлефон, інтэрнэт, аўдыё, відэа, фота- і відэакамера



Айпод. Магчымасці: аўдыё, відэа

У ЗША айпады каштуюць $500—830, але ў Беларусі, вядома ж, цана нашмат вышэйшая і звычайна вагаецца ад $1000 і больш за самыя крутыя мадэлі.

**Айпод (iPod)** — музычны прайгравальнік. Гэта адзін з самых старых брэндаў на «ай», ён быў выпушчаны ў 2001 годзе. З таго часу мінула ўжо шэсць пакаленняў прайгравальніка і прададзена больш за 250 мільёнаў копій. З кожнай новай мадэллю прайгравальнік утрымлівае ўсё больш памяці. У апошніх айподах, выпушчаных у 2007 годзе, ужо было 160 гігабайтаў — гэтага дастаткова, каб запісаць трыццаць тысяч песняў!

Прайгравальнік працуе без падзарадкі больш за суткі, а важыць усяго 150 грамаў.

Цана, вядома ж, кусаецца — ад $300.

**Яўген Васількоў**

АДПАЧЫНАК

## Віза ў Румынію падаражэла ў шэсцьдзесят разоў

Цяпер з арганізаванага турыста возьмуць €60.

Паводле інфармацыі пасольства Румыніі ў Мінску, ад 28 ліпеня адмяняюцца групавыя візы ў гэтую краіну. Рашэнне тлумачыцца тым, што да 2012 краіна збіраецца ўступіць у Шэнгенскую зону. Цяпер беларускія турысты змушаныя купляць індывідуальную візу за €60. Нагадаем, што з 1 чэрвеня 2009 года кошт афармлення візы для турыстаў, якія накіроўваліся ў Румынію ў складзе арганізаванай групы, складаў 1 еўра на чалавека. Пры гэтым на кіраўніка турыстычнай групы віза афармлялася за €60.

У турыстычных фірмах асцерагаюцца, што нечаканае павышэнне кошту віз балюча ўдарыць па продажах тураў у гэтую краіну. «Румынія заўсёды ўспрымалася як бюджэтны кірунак, — кажа Наталля Бугаёва, дырэктар кампаніі «КаларЛэнд». — З увядзеннем міграцыйных запрашэнняў мы ўжо адчулі адток не толькі беларускіх турыстаў, але і тураператараў — занадта складана стала працаваць. У гэтым годзе Беларуская чыгунка пайшла насустрач беларускім турфірмам і зноў пусціла вагоны на Костанцу — і таксама хутчэй за ўсё панясе страты».

**Tio.by**



Замак графа Дракулы стаў далейшы на €60

НАВУКА

## Расшыфраваны геном бульбы

Навукоўцы знайшлі гены, якія адказваюць за ўраджайнасць.

Бульба (Solanum tuberosum) — адна з самых важных для чалавецтва сельгасраслінаў, аднак дагэтуль спецыялісты не маглі расшыфраваць яе геном. Прычына — яго памеры і вялікая колькасць паўтораў: кожная храмасома ў расліны прысутнічае ў чатырох копіях.

Аўтары новага даследавання працавалі з разнавіднасцю бульбы, у геноме якой утрымліваецца не чатыры копіі кожнай храмасомы, а толькі дзве. Навукоўцам удалося расшыфраваць паслядоўнасць 86% ДНК расліны і ідэнтыфікаваць каля 39 тысяч генаў. Агульная даўжыня геному бульбы складае 844 мільёна «літар» — для параўнання, у геноме чалавека колькасць «літар» складае каля трох мільярдаў.

Яклічаць даследчыкі, адкрытыя гены, якія адказваюць за ўраджайнасць і пажыўнасць бульбы, дапамогуць павысіць ураджай гэтага другога хлеба для мільёнаў людзей.

Зараз навукоўцы змогуць лягчэй выводзіць новыя гатункі бульбы. Для расшыфроўкі генаў бульбы спатрэбілася больш за дзесяць гадоў.

**Gazeta.ru**

ТУРЫЗМ

## Самы дарагі горад свету для замежнікаў — Луанда

Мінск параўнальна танны — усяго на 193-м месцы.

Сталіца Анголы Луанда стала самым дарагім горадам свету для пражывання замежнікаў у рэйтынгу кампаніі Mercer. У Еўропе самая дарагая сталіца — Масква, яна заняла чацвёртае радок у агульным спісе.

Другое месца ў свеце па дарагоўлі жыцця заняў Токіа, трэцяе — сталіца Чада Нджамена. Пры гэтым толькі тры еўрапейскія гарады фігуруюць у дзясятцы самых дарагіх гарадоў свету. За Масквой у рэйтынгу знаходзяцца Жэнева, Осака, Цюрых, Сінгапур, Ганконг, Сан-Паўла.

Самы танны горад свету — пакістанскі горад-порт Карачы. «Ён утрая таннейшы за Луанду», — адзначаюць даследчыкі.

Даследаванне праводзілася ў сакавіку гэтага года ў 214 гарадах свету, дзе працуюць замежныя спецыялісты, з улікам цэнаў на 200 тавараў і паслуг.

Мінск у 2011 годзе заняў у спісе Мерсера 193-е месца (летась 192-е). З постсавецкіх сталіц таннейшыя за Мінск толькі Ашхабад (206) і Бішкек (210).

**ЯМ, паводле Newsru.com**

| Горад | Месца ў 2011 | Месца ў 2010 |
|---|---|---|
| Масква | 4 | 4 |
| Рыга | 88 | 81 |
| Кіеў | 94 | 104 |
| Варшава | 102 | 96 |
| Вільня | 133 | 120 |
| Мінск | 193 | 192 |

КУДЫ КОЦІЦЦА СВЕТ

## Мінская міліцыя забараніла загараць топлес на гарадскіх пляжах

Упраўленне ўнутраных спраў Мінска настойліва рэкамендавала аматарам загару топлес на гарадскіх пляжах перагледзець свае звычкі. Як заявіў начальнік прэс-службы ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі, такія паводзіны ў грамадскім месцы, у залежнасці ад сітуацыі, могуць быць расцэненыя як дробнае хуліганства з наступным прыцягненнем да адміністрацыйнай адказнасці. Ён нагадаў, што артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ за дробнае хуліганства прадугледжвае штраф у памеры ад 2 да 30 базавых велічынь (70 тыс. — 1 млн 50 тыс.) або адміністрацыйны арышт.

Жартаўнікі ўжо адрасавалі міліцыі пытанне, ці гэтыя забароны тычацца толькі жанчын.

**СМ**

## У беларускіх танцах перапынак да верасня

Беларускія танцы, што ладзіліся кожны чацвер у мінскай кавярні «Жар-птушка», перарываюцца да верасня. Арганізатары бяруць адпачынак і на ўсялякі выпадак шукаюць альтэрнатыўную пляцоўку.

«Мы ўсе параз'язджаліся, — кажа адна з ініцыятарак беларускіх вечарын Таццяна Матафонава. — Аднак у верасні мы танцы адновім. У «Жар-птушцы» будзе хутчэй за ўсё іншы дырэктар. Калі дамовімся з ім — танцы будзем ладзіць там. Калі не — знойдзем іншую пляцоўку».

Беларускія імпрэзы ў «Жар-птушцы», дзе можна было весела, пад жывую музыку практыкавацца ў народных і сярэднявечных танцах, збіралі штотыдзень каля сотні чалавек.

**ЮУ**

ПРЫРОДА

## На мінскія каштаны напала моль-паразіт

У тым, што на дрэвы напала нейкая зараза, лёгка пераканацца, да прыкладу, на вуліцы Сурганава ў раёне Цэнтральнага батанічнага саду. У каштанаў пажоўклі кроны, некаторыя і зусім ужо скінулі лістоту.

Аказваецца, на іх напала мініруючая моль. Пры моцным пашкоджанні ліст заўчасна засыхае.

Гэты шкоднік вельмі хутка распаўсюджваецца па Еўропе. З каштанавай праблемай ужо сутыкнулася Украіна, дзе мініруючая моль была ўпершыню выяўленая ў 1998 годзе і ўжо паспела папсаваць каштаны ў Кіеве, Адэсе і іншых гарадах.

Супраць насякомых у прынцыпе можна выкарыстоўваць хімічныя прэпараты і механічныя сродкі барацьбы. Аднак хімія ў горадзе не падыходзіць — ёсць небяспека для людзей. Навукоўцы абяцаюць эксперыментаваць і спалучаць розныя падыходы да лячэння.

**Naviny.by**



У сераду калумбійскі дом моды Мааjі прадставіў апошнюю калекцыю купальнікаў. Дэманстравалі іх цудоўныя «піраткі».

# Суслік будзе як замак

## Эколагі хочуць зрабіць рабога сусліка сімвалам Міра і Карэлічаў.

Менавіта там збіраюцца аднавіць папуляцыю рэдкіх звяркоў. Надзея з'явілася пасля таго, як у раёне выявілі каля 40 асобін знікаючых грызуноў.

Арэал пражывання рабога сусліка ў Карэліцкім раёне — самы паўночны ў Еўропе. Як ён тут з'явіўся — няма ведама. Але вялікай любові ніколі не выклікаў. Мясцовыя жыхары спрадвеку вядуць вайну з суслікам, заліваючы яго норы вадой. У савецкі час іх нішчылі «хіміяй» — суслікі моцна распладзіліся ў Карэліцкім раёне і рабілі шкоду збожжавым. А ў пачатку ХХ стагоддзя, як пісала тады «Наша Ніва», была і яшчэ адна прычына нелюбові — у іх норах ламалі ногі худоба і коні.

Сёння рабы суслік уваходзіць у лік знікаючых відаў. Звярка ахоўваюць у шэрагу краін, у Беларусі ён ад 2004 года занесены ў Чырвоную кнігу. За незаконную здабычу рабога сусліка і разбурэнне яго нор накладаецца штраф.

**СП**



## Анекдоты

* * *

— Тата, ты куды?
— На рэвалюцыю.
— А, так... Сёння ж серада. Надоўга?
— Ціпун табе на язык!

* * *

Нешта сёлета на «Славянскім базары» беларусы млява апладзіравалі. Нібыта нечага баяліся ...

* * *

Каб падабацца дзяўчатам, трэба быць разумным, прыгожым, багатым... або катом.

* * *

— Мяне дзеці агітуюць узяць у вас шчанюка.
— Бярыце двух. Хто бярэ аднаго, таму другі задарма.

* * *

Таварыш, памятай! Прыдумляючы імя свайму сыну, ты прыдумляеш імя па бацьку сваім унукам!

* * *

Эх! Калі б У. І. Ульянава пасля школы прызвалі ў войска...

## «НН» сто гадоў таму

**Бельскі павет Гродзенскай губерні.** Сюды ўсім бацюшкам высылаюць «Белорусскую жизнь», але ніхто не хоча выпісваць, бо, кажуць, яна нічога не дае карыснага, адно брэша ды грызецца.

Тое самае пішуць нам з-пад Мядзела Віленскай губ. і з-пад Чавусаў Магілёўскай губ.

**«НН». № 27. 1911.**

**За Машэраву на прэзідэнцкіх выбарах** гатовыя прагаласаваць 17% выбарцаў. Гэта, як сведчыць апытанне, збольшага русафілы, расчараваныя ў палітыцы Лукашэнкі, і пратэставы электарат. Праўда, 40% апытаных заяўляюць, што не прагаласуюць за Машэраву ні ў якім разе. Г.зн., што і яна без апоры на галасы дэмакратычнага і нацыяналістычнага электарату не мае найменшага шанцу на перамогу. Між тым яна дагэтуль цалкам выключае падобную кааліцыю, што і разглядаецца аналітыкамі як сведчанне яе непераадольнай несамастойнасці.

**«НН». № 27. 2001..**



«Штурм замка» падчас рыцарскага фэсту ў Мсціславе прайшоў у атмасферы ўзаемнай сімпатыі.



У Браславе згарэў кірмаш. Праўда, не ўсе гэта заўважылі.




Новыя спосабы прасоўвання тавараў і паслуг — тысячарублёўка як візітоўка.

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7410.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.07.2011.
Замова № 3446.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12